بسم الله الرّحمن الرّحيم

# Байрам

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ
ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ"

**№ 2**
**Мінск, 1998**

بسم الله الرّحمن الرّحيم

## У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага !

*Салям алейкум, спадары і спадарыні, супляменнікі-татары, усе мусульмане!*

29 сакавіка 1998 года пачаўся месяц зуль-хіджа 1418 года мусульманскага летазлічэння. У першыя дзесяць дзён гэтага месяца мусульмане, сабраўшыся з усіх канцоў света ў Саудаўскай Аравіі, здзяйсняюць хадж — паломніцтва да вялікіх святыняў Ісламу, што знаходзяцца ў гарадах Мекка і Медына. Завяршаючы хадж дзень 7 красавіка 1998 года з'явіўся для нас, мусульман, вялікім святам ахвярапрынашэння, альбо па-арабску — Ід аль-Адха, па-татарску — Курбан-Байрам.

Агульнавядома, што Іслам грунтуецца на пяці слупах (асновах) веры (па-арабску — "аркан аддзін"). Паводле хадзіса прарока Мухаммеда (Мір яму і міласць Аллага Усявышняга!), пяць асноў мусульманскай веры гучаць наступным чынам: "**Першая** — сведчанне, што няма Аллага акрамя Аллага, і Мухаммед — слуга і пасланнік Аллага (па-арабску: "Эшгэду ан ля ілляга илля Аллаг уа эшгэду энна Мухаммадун абдугу уа расюлюгу"); **Другая** — малітва (па-арабску — салят, па-татарску — намаз); **Трэцяя** — выплата падатку на справы мусульманскай абшчыны (па-арабску — закят); **Чацвёртая** — выкананне посту ў месяц Рамадан; **Пятая** — здзяйсненне хаджа да Дома Аллаха.

У свяшчэнным Кур'ане, хадзісах нашага Прарока (Мір яму і міласць Аллаха Усявышняга!) і іншых крыніцах змешчаны адказ на пытанне, чаму хадж стаў адной з пяці асноў мусульманскай веры і займае такое важнае месца ў жыцці мусульман. Гэтыя першакрыніцы тлумачаць таксама і паходжанне, сэнс абрадаў, што складаюць **Хадж.**

Пачатак хаджа звязаны з імем прарока Ібрагіма (Мір яму!) і яго сына Ісмаіла (Мір яму!). Ібрагім (Мір яму!), як сведчыць Кур'ан, задоўга да ўзнікнення іудаізму і хрысціянства — адзінабожных рэлігій, стаў ханіфам — адзінабожнікам і му-

сульманінам. Адбылося гэта па волі самога Аллага, які, як сказана ў Кур'ане, "паказаў Ібрагіму ўладу над нябёсамі і зямлёй, каб ён быў сярод тых, хто мае ўпэўненасць" (Сура "Анам", аят 75). Яшчэ ў юнацтве Ібрагім (Мір яму!) рэзка выступаў супраць мнагабожжа, як сказана ў Свяшчэнным Кур'ане, "павярнуў свой твар да Таго, Хто стварыў нябёсы і зямлю, пакланяючыся Яму шчыра" (там жа, аят 79).

Прарок Ібрагім (Мір яму!) нарадзіўся ў Месапатаміі (на тэрыторыі сучаснага Ірака), а яго прапаведніцкая дзейнасць адбывалася ў Палесціне, Егіпце і іншых раёнах. З Меккай, Аравіяй звязаны адзін з самых значных этапаў жыцця і дзейнасці прарока Ібрагіма і яго сына Ісмаіла (Мір ім!).

Ісмаіл (Мір яму!) са сваёй маці Хаджар жыў у горадзе Мекка, і прарок Ібрагім (Мір яму!) часта наведваў яго. Аднойчы Прарок убачыў сон, пад час якога ён прыносіў Ісмаіла ў ахвяру Аллаху. Прарок (Мір яму!) зразумеў, што гэта з'яўляецца жаданнем Аллаха, і вырашыў выканаць волю Усявышняга. У Кур'ане гаворыцца, што Ібрагім (Мір яму!) сказаў Ісмаілу: "Сынок мой, бачу я ў сне, што прыношу цябе ў ахвяру. Што ты пра гэта думаеш?" (Сура "Саффат", аят 102). І ў адказ Ібрагім (Мір яму!) пачуў: "Бацька мой, рабі, што табе даведзена; ты знойдзеш мяне, калі пажадае Аллах, цярплівым" (Сура "Саффат", аят 103). Але ў той момант, калі прарок Ібрагім (Мір яму!) падрыхтаваўся ўзняць нож на сына, Аллах звярнуўся да яго са словамі: "О Ібрагім, ты спраўдзіў убачанае" (Там жа, аяты 104–105). Так Аллах аддзячыў дабрадзея Ібрагіма (Мір яму!). Тады Прарок (Мір яму!) прынёс у ахвяру барана. Гэты выпадак, які адбыўся непадалёку ад Меккі, у мястэчку Міна, стаў асноватворным пры ўстанаўленні абраду ахвярапрынашэння як складанай часткі хаджа.

Дзеянні Ібрагіма (Мір яму!), яго пастаянная гатоўнасць адстойваць веру ў адзінага і непараўнальнага Аллаха былі адзначаны вялікімі міласцямі Усявышняга. Менавіта яго зрабіў Аллах "для людзей імамам", яму даручыў узначаліць першую мусульманскую абшчыну. З гэтай нагоды ў Свяшчэнным Кур'ане Іслам часта называюць "рэлігіяй Ібрагіма". Менавіта гэтаму Прароку і яго сыну выпаў гонар падрыхтаваць для наведвання вернікамі "Дома Аллаха" — храма аль-Каабу. У Кур'ане

сказана: "І вось Мы ўладкавалі для Ібрагіма месца дома: Не прыдаваў Мне ў сатаварышы нічога і ачысці Мой дом для тых, хто абыходзіць, і для тых, хто стаіць, і для тых, хто кланяецца" (Сура "Хадж", аят 26).

Пасля гэтага Аллах даручыў Ібрагіму (Мір яму!) "абвясціць людзям пра хадж: яны прыдуць да цябе пешшу і на розных худобах... каб засведчыць аб карысным ім і ўспамінаць імя Аллаха ў вызначаныя дні над падараванымі жывёламі: ешце і накарміце няшчаснага бедняка! Потым няхай яны закончаць са сваёй няпэўнасцю і цалкам выканаюць свае абяцанні і абыдуць вакол старажытнага дома" (Сура "Хадж", аяты 27–29).

Такім чынам, хадж бярэ свой пачатак з глыбокай даўніны, з часоў прарока Ібрагіма (Мір яму!). Нам вельмі б хацелася звярнуць вашу ўвагу і на аят Свяшчэннага Кур'ана, у якім гаворка ідзе пра хадж, аят, у якім праявілася вялікая любоў Аллаха да свайго стварэння — чалавека, клопат пра яго душэўны стан: "У Аллаха для людзей абавязак хаджа да дома тым, хто здольны здзейсніць шлях да Яго" (Сура "Імран", аят 7).

Кожнаму мусульманіну хацелася б прытуліцца да святыняў Ісламу, пабываць у мясцінах, звязаных з імёнамі вялікіх прарокаў Ібрагіма (Мір яму!) і Мухаммеда (Мір яму і міласць Аллаха Усявышняга!), дзейнасцю першых мусульманскіх абшчын. Тым больш, што дзякуючы зменам, якія адбыліся за апошнія 10 гадоў у нашым грамадстве, мы маем магчымасць бесперашкодна ехаць у Мекку і Медыну.

Але сёння далёка не кожны мусульманін здольны здзейсніць хадж, скарыстаць мажлівасці, дадзеныя яму дзяржавай. І Усявышні Аллах таксама паклапаціўся пра тое, каб не здольныя здзейсніць хадж не перажывалі з-за гэтага. Хадж, як вызначана Усявышнім Аллахам, "для тых, хто ў сілах здзейсніць шлях да Яго". Тым, хто па прычыне розных абставін (адсутнасць матэрыяльных мажлівасцей, стан здароўя ды іншае) не можа яго здзейсніць, Іслам прапануе мноства іншых мажлівасцей заслужыць прыхільнасць, міласць Аллаха, Яго блаславенне. І гэта, перш за ўсё, як сказаў Святы прарок Мухаммед (Мір яму і міласць Аллаха Усявышняга!), — пятнічнае богаслужэнне. "Пятнічныя малітвы — гэта хадж для тых, хто не здзяйсняе яго". Гэта і богабаязнасць, набожныя паводзіны і

добрыя справы. Вось што, напрыклад, у Свяшчэнным Кур'ане сказана пра ахвярапрынашэнне: "Сытых Мы зрабілі для вас (жывёл) з адзначаных для Аллаха; для вас у іх карысць. Памінайце ж імя Аллаха над імі... А калі іх бакі паваляцца, то ешце іх і накарміце стрыманага і таго, хто просіць сарамліва... Не дойдзе да Аллаха ні іх мяса, ні іх кроў, але дойдзе да Яго богабаязнасць ваша. Так Ён падпарадкаваў іх вам, каб вы ўзвышалі Аллаха за тое, што Ён вывеў вас на роўны шлях, а ты абрадуй тых, хто творыць дабро!" (Сура "Хадж", аяты 37–38).

**Дарагія браты і сёстры!**

Святы прарок Мухаммед (Мір яму і міласць Аллаха Усявышняга!) сказаў: "За набожны хадж няма іншай узнагароды, акрамя рая". Але рай, паводле Ісламу, могуць заслужыць не толькі тыя, хто ў гэтыя дні знаходзіцца ў святых месцах, але і тыя, хто сёння дома, побач са сваімі блізкімі і роднымі. Яны, як сказана ў нашай Свяшчэннай кнізе таксама могуць цвёрда разлічваць, што апынуцца ў раі. Але для гэтага мусульмане павінны добрасумленна выконваць свой грамадскі абавязак, быць уважлівымі і добрымі да ўсіх, хто вас акружае, аказваць усім жывучым у нястачы матэрыяльную і маральную падтрымку, шанаваць памяць памерлых. Асаблівай увагай і клопатам трэба акружыць бацькоў і дзяцей, сірот і нямоглых. Зразумела, трэба помніць і пра тое, што Аллах абрадуе сваёй увагай пакорлівых, "тых, у каго палохаюцца сэрцы, калі памінаецца Аллах, і цярплівых да таго, што іх напаткае, хто выстойвае малітву і траціць з таго, што Мы ім падаравалі" (Сура "Хадж", аят 35). Таму, як сказана ў Кур'ане, "дапамагай-це адзін аднаму ў набожнасці і богабаязнасці, але не дапамагайце ў граху і варажнечы" (Сура "Майда", аят 3).

Ассаляму алейкум, уа рахматуллагі Тааля уа баракятугу!

Мір Вам, міласць Аллаха Усявышняга і Яго бласлаўленне!

*29 сакавіка 1998 г.*

Лісты і адказы пішыце на адрас:
220131, г. Минск, а/я <u>131</u>. Редакции журнала "Байрам".

# АД РЭДАКЦЫІ

Наш часопіс-квартальнік "Байрам" выдаецца абмежаваным тыражом у мэтах абуджэння самасвядомасці нашага народа, паказа нашай гістарычнай і культурнай спадчыны і для абмену думкамі, меркаваннямі і прапановамі наконт шляхоў і магчымасцей нашага адраджэння ў сённяшні час. Увогуле можна сказаць, што "Байрам" — гэта наша трыбуна, з якой можа выступіць кожны зацікаўлены прыхільнік справы адраджэння татарскага народа на землях Беларусі. І мы ў кожным нумары запрашаем усіх жадаючых падзяліцца сваімі думкамі дасылаць свае лісты на адрас:

*220131, г.Минск, а/я 131. Редакция журнала "Байрам".*

Друкуючы вашы лісты на старонках квартальніка, мы не заўсёды і не ва ўсім можам падзяляць ці падтрымліваць выказаныя вамі думкі і прапановы, але яны даюць і нам, і чытачам падставу выбіраць больш узважліва накірункі нашай дзейнасці на перспектыву з улікам інтарэсаў і асобных членаў нашага аб'яднання. Канешне, у дасылаемых вамі лістах могуць з'яўляцца і крайнія думкі і падыходы ў вырашэнні некаторых праблем нашага адраджэння, але ў такім выпадку трэба разумець, што кожны мае сваю галаву і свой розум і ў адпаведнасці са сваім жыццёвым вопытам мае права выказаць свае меркаванні па тым ці іншым пытанні.

Тут важна, каб і нашы чытачы, зацікаўленыя ў паспяховым ходзе нашага адраджэння, не адмоўчваліся ў сваіх дамах і кватэрах, не дзяліліся сваімі думкамі на кухнях, а пісалі нам лісты са словамі падтрымкі ці непрыняцця той ці іншай прапановы. Тады квартальнік стане сапраўднай трыбунай.

Вось і ў апошнім выпуску (№ 1 за 1998 г.) мы надрукавалі ліст А.М. Крыніцкага (стар. 98–102) з Гродна, які выказаў свае, і толькі свае, меркаванні наконт стану спраў у нашай краіне. Пакуль што ніхто нам у рэдакцыю не даслаў пісьмова сваіх адносін да гэтых меркаванняў, але па тэлефоне і на словах некаторыя выказалі сваю нязгоду з думкамі А.М. Крыніцкага. Рэдакцыя ў тым нумары квартальніка не давала сваёй рэцэнзіі на гэты допіс, чакалі, як яго ўспрымуць нашы татары і мусульмане. Цяпер мы хочам даць кароткі каментар па некаторых яго пытаннях.

Мы вельмі спачуваем А.М. Крыніцкаму і яго жонцы ў сувязі з трагедыяй, якая напаткала сям'ю яго сына Юсуфа. Але ні ў якім разе нельга звязваць гэту трагедыю з лістамі, якія адсылаў Алі

Мустафавіч на адрасы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Прэзідэнта Татарстана, у муфтыяты РБ і ЦДУМ г. Уфы, у Дзяржкамітэт па справах рэлігій і г.д. Ніякіх падстаў ці фактаў няма. Няправільна ўспрынята і выказаная муфціем Беларусі згода на сумесную працу на карысць адраджэння татар і мусульман: мелася на ўвазе праца ў адным мусульманскім рэлігійным аб'яднанні Рэспублікі Беларусь, без падзелу на мухтасібат і МРА ў РБ. Калі б А.М. Крыніцкі прысутнічаў на з'езде, было б вырашана і гэта пытанне ў згодзе і ўзаемаразуменні абодвух бакоў. Далей. Нельга пагадзіцца з меркаваннем А.М. Крыніцкага, што факты нападу на яго жонку і на сям'ю сына — гэта напад на Іслам у Беларусі. Гэта некарэктна і нават не потрабуе доказу. Нельга гаварыць і сур'ёзна ўспрымаць выказаную думку Алі Крыніцкага аб тым, што ўпершыню за 750 гадоў (адкуль такая лічба?) немусульманка прыняла ў 1997 г. Іслам і практыкуе гэту веру. У нас, у Мінску, Іслам прынялі з 1994 па 1998 г. болей чым 35 беларусаў — дзяўчат і юнакоў, і многія з іх выконваюць патрабаванні Ісламу. Але аб гэтым не абавязкова шырока абвяшчаць, бо гэта справа вельмі асабістая і добраахвотная, і мы не маем ніякіх фактаў іх пераследу за гэты высакародны ўчынак. І апошняе. Мы катэгарычна не згодны з галаслоўнай заявай Алі Крыніцкага аб тым, што Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей "натравливает татар на татар, мусульман на мусульман". Кіраўніцтва "Аль-Кітаба" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання, як і рэдак-цыі часопіса "Байрам" і газеты "Жизнь" вельмі часта сутыкаюцца з супрацоўнікамі Дзяржкамітэта пры вырашэнні многіх праблем нашага паўсядзённага жыцця і на перспектыву і таму могуць цвёрда засведчыць, што ў Камітэце мы атрымліваем толькі дапамогу, сустракаем разуменне, праўда, у рамках мажлівасцей самога Дзяржкамітэта. Але гэта ўжо зусім іншая справа. Дастаткова ўспомніць хаця б мерапрыемствы, праведзеныя з нагоды 600-годдзя пасялення татараў на землях Беларусі.

Рэдакцыя яшчэ раз падкрэслівае, што думкі, выказаныя А.М. Крыніцкім, ёсць яго асабістыя, і ён мае на іх права, такса-ма як іншыя людзі могуць мець зусім адваротныя думкі — і гэта іх права.

**І. Александровіч.**

***

# КУР'АН

## Сура дзесятая — Йунус

بِسۡمِ ٱللَّهِ ٱلرَّحۡمَٰنِ ٱلرَّحِيمِ

الٓرۚ تِلۡكَ ءَايَٰتُ ٱلۡكِتَٰبِ ٱلۡحَكِيمِ ١ أَكَانَ لِلنَّاسِ عَجَبًا
أَنۡ أَوۡحَيۡنَآ إِلَىٰ رَجُلٖ مِّنۡهُمۡ أَنۡ أَنذِرِ ٱلنَّاسَ وَبَشِّرِ ٱلَّذِينَ ءَامَنُوٓاْ
أَنَّ لَهُمۡ قَدَمَ صِدۡقٍ عِندَ رَبِّهِمۡۗ قَالَ ٱلۡكَٰفِرُونَ إِنَّ هَٰذَا
لَسَٰحِرٞ مُّبِينٌ ٢ إِنَّ رَبَّكُمُ ٱللَّهُ ٱلَّذِي خَلَقَ ٱلسَّمَٰوَٰتِ وَٱلۡأَرۡضَ
فِي سِتَّةِ أَيَّامٖ ثُمَّ ٱسۡتَوَىٰ عَلَى ٱلۡعَرۡشِۖ يُدَبِّرُ ٱلۡأَمۡرَۖ مَا مِن شَفِيعٍ
إِلَّا مِنۢ بَعۡدِ إِذۡنِهِۦۚ ذَٰلِكُمُ ٱللَّهُ رَبُّكُمۡ فَٱعۡبُدُوهُۚ أَفَلَا
تَذَكَّرُونَ ٣ إِلَيۡهِ مَرۡجِعُكُمۡ جَمِيعٗاۖ وَعۡدَ ٱللَّهِ حَقًّاۚ إِنَّهُۥ
يَبۡدَؤُاْ ٱلۡخَلۡقَ ثُمَّ يُعِيدُهُۥ لِيَجۡزِيَ ٱلَّذِينَ ءَامَنُواْ وَعَمِلُواْ ٱلصَّٰلِحَٰتِ
بِٱلۡقِسۡطِۚ وَٱلَّذِينَ كَفَرُواْ لَهُمۡ شَرَابٞ مِّنۡ حَمِيمٖ وَعَذَابٌ
أَلِيمُۢ بِمَا كَانُواْ يَكۡفُرُونَ ٤ هُوَ ٱلَّذِي جَعَلَ ٱلشَّمۡسَ
ضِيَآءٗ وَٱلۡقَمَرَ نُورٗا وَقَدَّرَهُۥ مَنَازِلَ لِتَعۡلَمُواْ عَدَدَ ٱلسِّنِينَ
وَٱلۡحِسَابَۚ مَا خَلَقَ ٱللَّهُ ذَٰلِكَ إِلَّا بِٱلۡحَقِّۚ يُفَصِّلُ ٱلۡأٓيَٰتِ
لِقَوۡمٖ يَعۡلَمُونَ ٥ إِنَّ فِي ٱخۡتِلَٰفِ ٱلَّيۡلِ وَٱلنَّهَارِ وَمَا خَلَقَ
ٱللَّهُ فِي ٱلسَّمَٰوَٰتِ وَٱلۡأَرۡضِ لَأٓيَٰتٖ لِّقَوۡمٖ يَتَّقُونَ ٦

**1.** У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага.

**2.** Алеф Лям Ра. Гэта — вершы кнігі, поўнай Мудрасці.

**3.** Няўжо таму дзівуюцца людзі, што Мы натхнілі аднаго з іх, кажучы: "Перасцеражы род чалавечы і падай добрую вестку вернікам аб тым, што прыгатавана і праўдзівая ступень дастойнасці пра Уладыку". Няверныя кажуць: "Гэта, напэўна, чараўнік".

**4.** Ісціна, Уладыка ваш — Аллаг, Які стварыў неба і зямлю за шэсць прамежкаў часу; пасля чаго ўсеўся Ён на прастоле, каб правіць усім, што Ён стварыў. І няма хадатая перад Ім, інакш як з Яго дазволу. Гэта — Аллаг, Уладыка ваш! Служыце Яму. Ці ж вы не апамятаецеся?

**5.** Да Яго вы ўсе вернецеся. Абяцанне Аллага ёсць ісціна. Сапраўды, Ён стварае ў першы раз, а пасля паўтарае ўсё зноў, каб дастойна ўзнагародзіць тых, хто веруе і чыніць добрыя справы. Што ж тычыцца няверных, варатак будзе іх напіткам і балючая кара, бо яны не ўвералі.

**6.** Гэта Ён загадаў сонцу выпраменьваць яркае святло, а месяцу — адлюстроўваць ззянне, і вызначыў для яго фазы, каб вы маглі знаць лік гадоў і вылічваць час. Не інакш стварыў гэта Аллаг, як па ісціне. Ён тлумачыць аяты (знакі) для людзей, якія разумеюць.

**7.** Ісціна, у змене ночы і дня і ва ўсім, што стварыў Аллаг на небе і на зямлі ёсць знакі для богабаязных людзей.

**8.** Тым, якія не маюць надзеі на Нашу сустрэчу і задавольваюцца жыццём на гэтым свеце, і знаходзяць у гэтым задавальненне і не зважаюць на Нашыя аяты, —

**9.** Агонь будзе жытлом па заслугах іх.

**10.** Што ж тычыцца тых, хто веруе і чыніць добрыя справы, — іх Уладыка накіруе іх дзеля веры іх. Ручаі будуць цячы каля іх ног у Садах Асалоды.

**11.** І малітва іх там будзе: "Слава Табе, о Аллаг!" І вітанне іх там будзе: "Мір". І канец малітвы іх там будзе: "Слава Аллагу, Уладару светаў!"

**12.** І калі б Аллаг паскорыў для людзей прыход зла, заслужанага імі, у той жа ступені, як яны жадаюць паскорыць багацце, канец іх жыцця, то іх тэрмін быў бы ўжо скончаны. Але Мы даём тым, хто не спадзяецца спаткацца з Намі, у сваім блуканні вандраваць усляпую.

**13.** І калі нядоля спасцігне чалавека, ён звяртаецца да Нас, лежачы, або седзячы, або стоячы; але калі выбавім Мы яго ад нядолі яго, ён працягвае ісці сваім шляхам, як быццам ён ніколі не звяртаўся да Нас, просячы аб выратаванні ад нядолі, якая яго спасцігла. Такія справы грэшнікаў здаюцца добрымі ў вачах іх.

**14.** Знішчылі Мы пакаленні, якія былі раней вас, калі яны чынілі зло; і прыходзілі да іх Пасланнікі з яснымі знакамі, але не паверылі яны. Так караем Мы грэшнікаў.

**15.** Пасля іх паставілі Мы вас наследнікамі іх на зямлі, каб упэўніцца, як вы будзеце паступаць.

**16.** І калі ясныя Нашыя аяты абвяшчаюцца ім, тыя, хто не спадзяецца з'явіцца перад Намі, кажуць: "Прынясі нам другі Кур'ан!" Або: "Замяні яго!" Скажы: "Не мне па ўласнай волі замяніць яго; я толькі выконваю тое, што мне абвешчана. Сапраўды, баюся я пакарання ў Судны дзень, калі я не выканаю загаду Уладара майго".

**17.** Скажы: "Калі б захацеў Аллаг, то не прачытаў бы я вам яго (Кур'ан) і не даў бы Ён яго вам. Сапраўды, пражыў я ўсё жыццё да гэтай пары сярод вас. Няўжо вы не разумееце?"

**18.** А хто ёсць больш несправядлівы ад таго, хто выдумляе лухту супроць Аллага, або хто маной лічыць знакі Яго? Сапраўды, ніколі грэшнікі не будуць шчаслівымі!

**19.** І пакланяюцца яны замест Аллага таму, што не можа прынесці ім ні шкоды, ні карысці; і кажуць яны: "Гэта — хадайнікі нашы перад Аллагам". Скажы: "Ці жадаеце вы давесці да ведама Аллага што-небудзь, чаго Ён не ведае на небе або на зямлі? Сьвяты Ён, і вышэй Ён усяго, што яны прыдаюць да Яго".

**20.** І род чалавечы жыў у згодзе, але пасля яны пасварыліся паміж сабою; і калі б не слова Аллага, пасланае перад гэтым, ужо адбыўся б суд паміж імі адносна таго, аб чым спрачаліся яны.

**21.** І яны кажуць: "Чаму не пасланы яму знакі ад Уладара яго?" Скажы: "Нябачнае належыць толькі аднаму Аллагу. Чакайце, і я з вамі сярод тых, хто чакае!"

**22.** І калі даём Мы людзям пакаштаваць міласці пасля таго, як напаткала іх нядоля, то яны пачынаюць надумваць хітрасць супроць знакаў Нашых. Скажы: "Аллаг хутчэйшы ў задумах Сваіх. Сапраўды, Нашы пасланцы (анёлы) вядуць усе запісы пра тое, што задумваеце вы".

**23.** Ён — Той, Хто дае вам мажлівасць падарожнічаць па сухазем'і і на моры, пакуль, калі вы на караблях, і яны плывуць з імі пры спадарожным ветры, і яны радуюцца гэтаму, пакуль не захопіць іх бура, і хвалі не будуць абрушвацца на іх з усіх бакоў, і не падумаюць яны, што яны акружаны; тады яны звяртаюцца да Аллага, выказваючы Яму шчырую сваю веру: "Калі Ты нас выратуеш, то мы сапраўды будзем удзячнымі".

**24.** Але калі Ён выбавіць іх, то яны зноў робяць беззаконнасць на зямлі. "О вы, людзі, беззаконнасць ваша накіравана толькі супроць вас саміх. Бо жыццё на гэтым свеце кароткае.

Пасля да Нас вернецеся вы; і Мы вам тады абвесцім, што вы чынілі".

**25.** Жыццё на гэтым свеце падобнае да вады, якую спусцілі Мы з неба: змешваецца яна з раслінамі зямлі, служачымі жыўленнем для людзей і жывёл; пакуль, калі атрымае зямля ўбор свой і красуецца ў ім, і гаспадары яго думаюць, што маюць уладу над ім, але прыйдзе воля Наша, ноччу ці днём, і Мы чынім зжатым, як быццам учора не было квітнеючым. У такі спосаб Мы робім знакі для людзей, якія думаюць.

**26.** І Аллаг прызывае да сядзібы міру, і вядзе, каго хоча, Ён на дарогу простую.

**27.** Прыгатавана найлепшая ўзнагарода і нешта большае для тых, хто чыніць добрыя справы, і не пакрые іх твары ні пыл, ні ганьба. Яны будуць навекі жыхарамі Раю.

**28.** А рабіўшым зло пакаранне будзе роўнае злу іх, і будуць яны пакрыты ганьбай. Не будзе ў іх заступніка перад Аллагам. І будуць твары іх пакрыты цёмнымі, як ноч, плямамі. І будуць яны жыхарамі полымя, і будуць яны там навекі.

**29.** І памятайце дзень, калі Мы збяром усіх разам, калі скажам Мы тым, хто дадаваў сатаварышаў Аллагу: "Адступіце назад, на месцы вашыя, вы і вашы сатаварышы!" І Мы іх раздзелім, а іх сатаварышы скажуць: "Вядома, не нам пакланяліся вы.

**30.** Цяпер дастаткова сведчання Аллага паміж намі і вамі. Ісціна, не ведалі мы аб вашым пакланенні".

**31.** Там кожная душа ўпэўніцца ў тым, што яна падрыхтавала самой сабе раней. І будуць яны прыведзены назад да Аллага, сапраўднага Уладара іх, і ўсе выдумкі не дапамогуць ім.

# КУР'АН

## Сура Йунус. Аяты 31—35.

**32.** Скажы: "Хто дае вам забеспячэнне з неба і з зямлі? Хто мае ўладу над вачамі і вушамі? І хто выводзіць жывое з мёртвага і мёртвае з жывога? І хто загадвае ўсялякімі справамі?" Яны скажуць: "Аллаг!" Дык скажы ім: "Ці ж не будзеце вы богабаязнымі?!"

**33.** Такі Аллаг, сапраўдны Уладар ваш! А што ж акрамя праўды, акрамя ілжы? Чаму ж тады адварочваецеся вы ад ісціны?

**34.** Так апраўдалася слова Уладара твайго на тых, якія шырылі непакору; бо яны і не веруюць!

**35.** Скажы: "Ці ж сярод вашых сатаварышаў ёсць такі, хто стварае першы раз, а пасля паўтарае стварэнне?" Скажы: "Аллаг стварае першы раз, а пасля паўтарае стварэнне! Куды ж адварочваецеся вы?"

**36.** Скажы: "Ці ёсць хто-небудзь сярод багоў, каго прыдаеце вы да Аллага, хто вядзе да ісціны? За кім тады больш падыходзіць ісці, за Тым, хто вядзе да ісціны, або за тым, хто не можа сам знайсці шлях, калі не будзе накіраваны? Што ж здарылася з вамі? Як разважаеце вы?"

**37.** І большасць з іх паступае толькі паводле здагадак. Ясна, што здагадкі — нішто перад ісцінай. Сапраўды, Аллаг добра ведае, што вы чынілі.

**38.** І не такі гэты Кур'ан, каб мог яго прыдумаць нехта, акрамя Аллага! Наадварот, ён выконвае тое, што было перад ім, і тлумачыць — у гэтым няма сумневу! — пасланне ад Уладара сусвету.

**39.** Або гавораць яны: "Ён падрабіў яго!" Скажы: "Тады прынясіце Суру, падобную да той, што ёсць у ім (Кур'ане), і паклічце на дапамогу тых, хто можа, акрамя Аллага, калі вы праўдзівыя".

**40.** Не; але яны адкінулі тое, чаго не маглі ахапіць сваім розумам, і сапраўдны сэнс яшчэ не дайшоў да іх. Падобна гэтаму, быўшыя раней за іх таксама адкінулі ісціну. Паглядзіце, які быў астатні канец людзей несправядлівых".

**41.** І ёсць сярод іх такія, кякія веруюць у Яго, і ёсць такія, якія ў Яго не веруюць. І Уладар твой добра ведае аб тых, хто пашырае зло.

**42.** І калі абвінавачваюць цябе ў ілжы, скажы: "Я адкажу за свае пастулкі, а вы за вашы. І не адказныя вы за тое, што я раблю, і я не адказны за тое, што вы робіце".

**43.** І ёсць сярод іх такія, якія слухаюць цябе прытворна. Ці можаш ты заставіць глухіх слухаць, калі яны да таго ж не разумеюць?

**44.** Ёсць і такія, хто (прытворна) глядзіць на цябе; але ці можаш сляпым шлях указаць, калі да таго ж яны не жадаюць бачыць?

**45.** Сапраўды, Аллаг ніколі не чыніць шкоды людзям. А людзі самі прыносяць шкоду душам сваім.

**46.** У той дзень, калі збярэ Ён іх усіх разам, здасца ім, што пражылі яны на зямлі не больш адной гадзіны дня. Яны пазнаюць адзін аднаго. І будуць мець страту тыя, якія сустрэчу з Аллагам лічылі за ману і не былі на праведным шляху.

**47.** Мы альбо пакажам табе частку таго, што ім абяцаем, або возьмем цябе да Сябе. Да Нас яны вароцяцца! І Аллаг пасля будзе сведкам таго, што яны чыняць.

**48.** Кожны народ мае свайго пасланца. І калі прыдзе іх пасланец, ужо будзе паміж імі вырашана па праўдзе, і не будуць яны пакрыўджаны.

**49.** І гавораць яны: "Калі збудзецца абяцанне гэтае, калі вы кажаце праўду?"

**50.** Скажы: "Няма ў мяне ўласнай улады ані над шкодай, ані над карысцю, акрамя таго, што Аллаг захоча". Для кожнага няверннага народа ёсць устаноўлены тэрмін, і калі прыйдзе час іх, не змогуць яны ні на адно імгненне ні адстаць ад яго, ні апярэдзіць яго.

**51.** Скажы: "Як думаеце вы: калі да вас прыйдзе кара (Аллага) у (змроку) ночы або ў (святле) дня, як могуць вінаватыя пазбегнуць яе?

**52.** Тады ці паверыце вы яму, калі яна спасцігне вас? "Як?! Цяпер?!" — хоць перад гэтым баяліся яе прыспешыць!"

**53.** І будзе тады сказана грэшнікам: "Адведайце вы вечнага пакарання. Ці ж не атрымалі плату толькі за тое, што самі заслужылі?"

**54.** І будуць цябе пытаць: "Ці гэта праўда?" Скажы: "О, так, клянусь Уладаром маім! Гэта ісціна, і перад ёю бездапаможны!"

# ХАДЖ — 1418 г. ХІДЖРЫ (Паломніцтва — 1998 г.)

Па запрашэнні Сусветнай Ісламскай Лігі — "Рабіта" два прадстаўнікі Беларусі — старшыня Упраўлення (муфтэй) Мусульманскага рэлігійнага аб'ядиання ў Рэспубліцы Беларусь І.М. Александровіч і прэзідэнт Беларускага згуртавання татармусульман "Аль-Кітаб" А.-Б.Ю. Шабановіч у канцы сакавіка — першай палове красавіка гэтага года здзейснілі хадж 1418 г. Хіджры ў якасці гасцей вышэй названай Лігі (усяго яе гасцямі ў гэты перыяд было 350 чалавек з усяго свету). Хутка аформіўшы візы ў пасольстве Саудаўскай Аравіі ў Маскве і прыдбаўшы білеты на самалёт у агенцтве Іарданскіх авіяліній, мы 30 сакавіка 1998 г. вылецелі з Масквы. У сталіцы Іарданіі Амане пераапрануліся ў вопратку паломніка (іхрам) і пераселі на другі самалёт, да Джыды (аэрапорт за 70 км ад Мекі). 31 сакавіка ў 5 гадзін 30 хвілін (іх час супадае з часам на Беларусі) у аэрапорце Джыды нас сустрэў прадстаўнік "Рабіты" і, пасля кароткага адпачынку, накіраваў на аўтамашыне на месца нашага пастаяннага знаходжання — г. Міна (6–10 км ад Меккі), дзе знаходзіцца 5-павярховы будынак "Рабіты" для гасцей.

Нас размясцілі ў пакоі разам з госцем з Наватроіцка Арэнбургскай вобласці татарынам Мухаммадам. У нашым нумары быў кандыцыянер, халадзільнік, быў санвузел з душам, так што для хаджу мы ўладкаваліся вельмі камфортна. Унізе, на першым паверсе, працавала сталовая самаабслугоўвання, у якой мы добра сілкаваліся тры разы на дзень. Першае яркае ўражанне ад з'яўлення ў поясе тропікаў — высокая тэмпература паветра (31 сакавіка — 40 градусаў днём і 20–22 градусы ноччу). Другое — гэта вялікая колькасць паломнікаў у белай вопратцы, якія прыбылі з усіх канцоў свету і размяшчаліся ў шматлікіх палатачных гарадках у наваколлі святых месцаў. Здзіўляла і мноства заценяў з посцілак і пакрывалаў, прымацаваных да платоў і калкоў проста на вуліцах, над ходнікамі. Пад заценямі размяшчаліся звычайна жыхары Саудаўскай Аравіі цэлымі сем'ямі, з дзецьмі і неабходнымі рэчамі (цыноўкі, коўдры, жыўленне, ёмістасці з вадой і інш.). Для нас незвычай-

ным здалася і непасрэдная блізкасць невысокіх скалістых гор з вельмі рэдкай раслінnасцю. Але самое галоўнае ўражанне, якое не пакідала нас на працягу ўсяго часу хаджа, — гэта самі святыя месцы, навакольнае асяроддзе, зямля, паветра, дзе 14 стагоддзяў таму зарадзілася наша вера — Іслам, дзе нарадзіўся, пачаў сваю прарочую дзейнасць наш Прарок Мухаммед (мір яму і благаслаўленне Аллага), і дзе ён са сваімі вернымі паплечнікамі ў труднай барацьбе адстойваў прынцыпы Ісламу. Мекка, Кааба, Медзіна, гара Арафат, Міна — тут хадзіў, звяртаўся да Аллага і маліўся Пасланнік Аллага (мір яму і бласлаўленне Аллага) са сваімі паплечнікамі, тут ён пахаваны (у Медзіне). Вось чаму пры выкананні абрадаў умры і хаджу і наведванні ўсіх гэтых месцаў нас не пакідала пачуццё далучэння да таго асяроддзя, дзе Вялікі Аллаг праз Свайго апошняга пасланніка Мухаммеда перадаў Сваё пісанне — Кур'ан і накіраваў людзей на сапраўдны шлях, пачуццё прыналежнасці да адзінай мусульманскай уммы, прадстаўнікі якой з усяго свету прыбылі ў гэтыя святыя месцы, каб пацвердзіць сваю вернасць і адданасць прынцыпам Ісламу. Гэтыя пачуцці не пакідаюць нас і цяпер і застануцца ў нашай свядомасці на ўсё жыццё.

Пры здзяйсненні хаджу, умры і наведванні мячэці Пасланніка (мір яму і бласлаўленне Аллага) патрабуецца выкананне пэўных правілаў, паслядоўнасць выканання абрадаў, тварэння малітваў і звяртанняў да Вялікага Аллага.

Таму вельмі дарэчы быў дадзены нам “Даведнік мусульманіну пры здзяйсненні хаджу, умры і наведванні мячэці Пасланніка”, складзены групай вучоных Ісламу ў Каралеўстве Саудаўскай Аравіі на рускай мове.

Мы выконвалі ўсе неабходныя абрады вумры і хаджу згодна з рэкамендацыямі.

**Галоўныя абрады хаджу**
**(без іх хадж не будзе лічыцца сапраўдным)**

Яны ўключаюць у сябе:

1. Іхрам — вопратка, якая складаецца з двух кавалкаў белай тканіны; адзін з іх накідваецца на шыю і плечы (рыда), а другім апярэзваюцца (ад пояса і ніжэй за калені).
2. Абход вакол Свяшчэннай Каабы (7 разоў).
3. Бег паміж узгоркамі Сафа і Марва (7 цыклаў).
4. Стаянне на гары Арафат.
5. Брыццё або стрыжка валасоў.

**Галоўныя абрады вумры**

1. Іхрам.
2. Абход Свяшчэннай Каабы (7 разоў).
3. Бег паміж узгоркамі Сафа і Марва (7 цыклаў).
4. Брыццё або стрыжка валасоў.

Акрамя таго, неабходна выкананне абавязковых рытуалаў хаджу і вумры:

1. Выкананне Іхраму ва ўстаноўленых месцах.
2. Правядзенне ночы ў Муздаліфе.
3. Кіданне каменьчыкаў у даліне Міна.
4. Правядзенне двух начэй Ташрыка ў Міне.
5. Развітальны абход вакол Свяшчэннай Каабы.

Усе гэтыя абрады і рытуалы з дапамогай запрасіўшай нас арганізацыі мы выконвалі на працягу двух тыдняў знаходжання на свяшчэннай зямлі, ад чаго ў нас захаваліся самыя яркія, незабыўныя ўражанні. Больш таго, нам пашчасціла пабываць у Медыне (400 км ад Меккі), наведаць мячэць Прарока і адслужыць малітву ў ёй, наведаць магілы Прарока і першых халіфаў Абу-Бакра і Амара, затым наведаць мячэць Кубаа і іншыя мячэці і вядомыя месцы.

У памяці застанецца і запрашэнне да караля Саудаўскай Аравіі Фахда ібн Абдул Азіза Аль-Сауда ў яго рэзідэнцыю —

палац ў Міне і да Генеральнага сакратара Сусветнай Ісламскай Лігі "Рабіта" доктара Абдуллаха ібн Саліх Аль-Абейда. І што важна для нас — атрымана ад апошняга вельмі сур'ёзнае абяцанне дапамагчы мусульманам Беларусі ў будаўніцтве мячэці ў Мінску. Для гэтага нам былі перададзены адпаведныя дакументы і афіцыйны ліст у сакратарыят "Рабіты" ў тэрміновым парадку рыхтаваць да адпраўкі туды зводнага каштарыса на будаўніцтва мячэці. Мы вельмі спадзяёмся, што з дапамогай Вялікага Аллага і пры актыўнам удзеле дабрачыннай арганізацыі "Рабіта" і многіх іншых сапраўдных мусульман і добрых людзей як у Беларусі, так і за яе межамі, у Мінску адродзіцца мячэць у тым выглядзе, у якім яна была пабудавана ў пачатку нашага стагоддзя.

Мы таксама спадзяёмся, што ўдзел пакуль толькі двух мусульман у Хаджу 1418 г. Хіджры (1998 г.) — гэта толькі першая ластаўка, і ў будучыні, пры ўмацаванні і развіцці нашых сувязей з астатнім мусульманскім светам, нашы прадстаўнікі ў большай колькасці і часцей будуць наведваць святыя месцы Ісламу, тым самым выконваючы адзін з важных яго стаўпоў — хадж.

Дамоў мы вярнуліся тым жа шляхам — самалётам з Джыды цераз Аман да Масквы, а затым 17 красавіка — цягніком да Мінска.

Гэта падзея застанецца ў нашай памяці да канца жыцця і, спадзяёмся, будзе дапамагаць нам у рабоце па адраджэнні Ісламу на зямлі Беларусі.

Няхай жа дапамагае Вялікі Аллаг у нашых добрых намерах і справах і няхай жа аблегчыць нам шлях да нашага адраджэння!

8 траўня 1998 г.
г. Мінск

**І. Александровіч.**

***

***У канцы зімы 1998 г. ў Мінску адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя “Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў XX стагоддзі”. Яна была арганізавана Беларускім Хельсінскім камітэтам і Беларускай асацыяцыяй ахвяр палітычных рэпрэсій. Сімвалічна, што прадстаўнічы міжнародны форум праходзіў у канферэнц-зале гатэля “Юбілейны”, г.зн. у гістарычнай частцы горада, дзе да 1962 г. стаяла татарская мячэць. Гэты раён Мінска вядомы яшчэ пад назвай “Татарскі канец”, “Татарская слабада” альбо “Татарскія агароды”. Сёння яго ўжо няма. Зніклі і вуліцы Малая Татарская і Вялікая Татарская, Замячэтная...***

***Прапануем увазе нашых чытачоў выніковы дакумент міжнароднай канферэнцыі, татарскі мартыралог ахвяр палітычных рэпрэсій і артыкул І. Канапацкага, прысвечаны гэтай тэме.***



# РЭЗАЛЮЦЫЯ МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ “ПАЛІТЫЧНЫЯ РЭПРЭСІІ Ў БЕЛАРУСІ Ў XX СТАГОДДЗІ”

Грамадства, якое хоча жыць і паспяхова развівацца, павінна аналізаваць і ўлічваць гістарычны досвед. Асабліва пільна і ўважліва трэба зважаць на трагічныя перыяды ў гісторыі краіны, каб пазбегнуць іх вяртання. Масавыя рэпрэсіі 1920–1950-х гадоў сталі цяжкай дэмаграфічнай, духоўнай і маральнай катастрофай нацыі.

Наступствы яе яшчэ не цалкам пазбытыя і асэнсаваныя. Рэпрэсіі не спыніліся і цяпер, у канцы XX стагоддзя. Яны насілі і носяць масавы характар, служаць сродкам дасягнення палітычных мэтаў. Апошнім часам у грамадскую свядомасць уводзіцца думка, што рэпрэсіі былі гістарычна апраўданыя. Установа ў нашай краіне прэзідэнцкай формы кіравання стала пачаткам узнаўлення многіх таталітарных структураў. Асабліва гэты працэс узмацніўся пасля гэтак званага рэферэндуму 1996 года. У Беларусі не дзейнічае Канстытуцыя, падзаконныя

акты набываюць сілу закону. Усе незаконныя дзеянні дзяржаўнай улады апраўдваюцца вышэйшай мэтазгоднасцю. Нішто не можа служыць апраўданнем для забойства, знявагі чалавечай годнасці. Чалавечае жыццё — найвялікшая каштоўнасць.

Адным з крокаў па распрацоўцы фундаментальнай канцэпцыі гісторыі палітычных рэпрэсій у Беларусі стала міжнародная навуковая канферэнцыя "Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў XX стагоддзі", што адбылася 27–28 лютага 1998 года. Заслухаўшы звыш 40 дакладаў і паведамленняў, удзельнікі канферэнцыі адзначаюць:

1. Рэпрэсіі 1920–1950-х гадоў мелі масавы характар. Ад іх пацярпелі ўсе слаі насельніцтва Беларусі — сяляне, навуковая і творчая інтэлігенцыя, рабочыя, святары і рэлігійныя дзеячы розных канфесій, вайскоўцы, прадстаўнікі гэтак званых "эксплуататарскіх класаў", нацыянальных меншасцей, сябры небальшавіцкіх партый і іншыя. Гэта быў сапраўдны генацыд савецкай улады супраць уласнага народа.
2. Парушаліся ўсе асноўныя правы чалавека — на жыццё, маёмасць, недатыкальнасць жытла, на свабоду слова і сумлення, на працу.
3. Рэпрэсіўная сістэма дзяржавы працавала з парушэннем усіх нормаў законнасці.
4. Сістэма ўлады, заснаваная на ўдушэнні асноўных правоў грамадзян, з'яўляецца злачыннай.
5. Рэабілітацыя пацярпелых ад рэпрэсій зацягнулася на многія дзесяцігоддзі.
6. Хаваліся і хаваюцца месцы масавай згубы людзей, робяцца ўсялякія захады для таго, каб прыпісаць усе пахаванні злачыннай дзейнасці нямецкага фашызму.

Мы патрабуем:

1. Узнавіць сістэму дзяржаўных ільготаў для ахвяраў палітычных рэпрэсій.
2. За кошт бюджэту Мінска, бюджэту іншых гарадоў увекавечыць памяць загубленых людзей на месцах іх масавых пахаванняў — у Курапатах, Лошыцы, пад

Чэрвенем, Вілейкаю, у іншых месцах, вядомых навукоўцам.

3. Распрацаваць карту месцаў масавых рэпрэсій і пахаванняў ахвяр на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

г. Мінск
28 лютага 1998 года.



# ТАТАРСКІ МАРТЫРАЛОГ АХВЯР ПАЛІТЫЧНЫХ РЭПРЭСІЙ У БЕЛАРУСІ

**АДАМОВІЧ** Эмілія (Аліна) Абрагімаўна (1889, г. Навагрудак Баранавіцкай вобласці, па нацыянальнасці татарка), машыністка навукова-даследчага інстытута меліярацыі, пражывала ў г. Мінску. Арыштавана 9 кастрычніка 1944 г., асуджана 7 ліпеня 1945 г. Асобай нарадай пры НКУС СССР за антысавецкую дзейнасць да 5 гадоў ППЛ. Рэабілітавана 6 мая 1990 г. Прэзідыумам Мінскага абласнога суда.

**АЛЕКСАНДРОВІЧ** Куба Сулейма́новіч (1896, м. Узда Мінскай вобласці, па нацыянальнасці татарын), конюх арцелі "Эканаміст", пражываў у м. Узда Мінскай вобласці. Арыштаваны 18 сакавіка 1933 г., асуджаны 14 красавіка 1933 г. Тройкай за антысавецкую дзейнасць да ВМП. (Звестак аб пакаранні няма.) Рэабілітаваны 27 студзеня 1961 г. Судзебнай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР.

**АЛЕКСАНДРОВІЧ** Асан Магаметавіч (1908, м. Узда Мінскай вобласці, па нацыянальнасці татарын), без пэўных заняткаў, пражываў у г. Мінску. Арыштаваны 30 жніўня 1930 г., асуджаны 26 кастрычніка 1930 г. Тройкай за пабег з месца ссылкі да 3 гадоў ППЛ. Рэабілітаваны 25 жніўня 1989 г. Пракуратурай БССР.

**АСАНОВІЧ** Халіл (Міхаіл) Ібрагімавіч (1902, м. Смілавічы Мінскай вобласці, па нацыянальнасці татарын), рымар арцелі "Звязда", пражываў у м. Пухавічы Мінскай вобласці. Арыштаваны 28 жніўня 1936 г., асуджаны 7 снежня 1936 г. судзеб-

ным органам за антысавецкую агітацыю да 8 гадоў ППЛ. Рэабілітаваны 12 снежня 1989 г. Судзебнай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР.

**АСАНОВІЧ** Сулейман Хасенцьевіч (1888, г. Докшыцы Віленскай губерні, па нацыянальнасці татарын), памочнік машыніста ст. Круляўшчызна Беластоцкай чыгункі, пражываў на ст. Круляўшчызна Віцебскай вобласці. Арыштаваны 19 лютага 1940 г., асуджаны 26 жніўня 1940 г. Асобай нарадай пры НКУС СССР як сацыяльна небяспечны элемент да 8 гадоў ППЛ. Рэабілітаваны 14 студзеня 1993 г. Пракуратурай Віцебскай вобласці.

**БАГДАНОВІЧ** Шаміль Ібрагімавіч (1912, в. Валкалаты (Валакіты) Вілейскай вобласці, па нацыянальнасці татарын), рымар у аднаасобнай гаспадарцы, пражываў у в. Валкалаты (Валакіты). Арыштаваны 4 кастрычніка 1940 г., асуджаны 26 красавіка 1941 г. Асобай нарадай пры НКУС СССР за антысавецкую агітацыю да 8 гадоў ППЛ. Рэабілітаваны 30 лістапада 1989 г. Пракуратурай Віцебскай вобласці.

**БАЗАРЭВІЧ** Іосіф Мацвеевіч (1905, м. Будслаў Віленскага павета Віленскай губерні, па нацыянальнасці татарын), селянін-аднаасобнік, пражываў у м. Будслаў. Арыштаваны 7 красавіка 1927 г., асуджаны 8 жніўня 1927 г. Тройкай за шпіёнскую дзейнасць да ВМП. (Звестак аб пакаранні няма.) Рэабілітаваны 18 лістапада 1992 г. Ваеннай пракуратурай Рэспублікі Беларусь.

**БАЙРАШЭВІЧ** Аляксандр Мустафавіч (1890, г. Мінск, па нацыянальнасці татарын), бухгалтар арцелі Белпрамсавета, пражываў у г. Мінску. Арыштаваны 1 лістапада 1937 г., асуджаны 17 снежня 1937 г. Камісіяй НКУС СССР і Пракурора СССР за шпіянаж на карысць польскай разведкі да ВМП. Расстраляны 26 снежня 1937 г. Рэабілітаваны 12 снежня 1956 г. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

**БІЦЮТКА** Феліцыя Сулейманаўна (1890, г. Мінск, па нацыянальнасці татарка), хатняя гаспадыня, пражывала ў г. Мінску. Арыштавана 12 снежня 1937 г., асуджана 31 снежня 1937 г. Тройкай за антысавецкую агітацыю да 10 гадоў ППЛ. Рэабілітавана 29 красавіка 1989 г. Пракуратурай Мінскай вобласці.

**ГЕМБІЦКІ** Іван (Ях'я) Канстанцінавіч (Хасанавіч) (1883, г. Ліда Віленскай губерні, па нацыянальнасці татарын), ст. кансультант па будаўніцтве ў Дзяржбанку, пражываў у г. Мінску. Арыштаваны 15 сакавіка 1933 г., асуджаны 13 мая 1933 г. Тройкай за антысавецкую дзейнасць да 3 гадоў высылкі. Рэабілітаваны 10 лістапада 1989 г. Пракуратурай БССР.

**ГЕМБІЦКІ** Станіслаў Аляксандравіч (1893, г. Мінск, па нацыянальнасці татарын), вугальшчык на паліўным складзе чыгуначнай станцыі Мінск, пражываў у г. Мінску. Арыштаваны 7 ліпеня 1938 г., асуджаны 7 кастрычніка 1938 г. Тройкай як агент польскай разведкі да ВМП. Расстраляны 17 лістапада 1938 г. Рэабілітаваны 5 красавіка 1989 г. Пракуратурай БВА.

**ГЕМБІЦКІ** Сулейман Іванавіч (1904, г. Мінск, па нацыянальнасці татарын), ахоўнік на Мінскім млынавым заводзе № 4, пражываў у г. Мінску. Арыштаваны 23 снежня 1948 г., асуджаны 19 сакавіка 1949 г. судзебным органам як агент СД да 10 гадоў ППЛ з паражэннем у правах на 5 гадоў. Рэабілітаваны 7 кастрычніка 1994 г. Вярхоўным судом Рэспублікі Беларусь.

**ГІМБІЦКІ** Адам Якубавіч (1903, хут. Пятрова Докшыцкага раёна, па нацыянальнасці татарын), нарыхтоўшчык Бягомльскага аддзялення "Саюзкож", пражываў у м. Бягомль Віцебскай вобласці. Арыштаваны 23 ліпеня 1938 г., асуджаны 11 лістапада 1938 г. Тройкай як агент польскай разведкі да ВМП. Расстраляны 26 лістапада 1938 г. Рэабілітаваны 21 снежня 1960 г. Ваенным трыбуналам БВА.

**ГІМБІЦКІ** Браніслаў Якаўлевіч (1906, хут. Пятрова Докшыцкага раёна, па нацыянальнасці татарын), грузчык Райсаюза, пражываў у м. Бягомль Віцебскай вобласці. Арыштаваны 25 жніўня 1938 г., асуджаны 14 лістапада 1938 г. Тройкай як агент польскай разведкі да ВМП. Расстраляны 26 лістапада 1938 г. Рэабілітаваны 18 студзеня 1961 г. Ваенным трыбуналам БВА.

**ЖАБІНСКАЯ** Ванда Абрамаўна (1893, ураджэнка Сувалкскай губерні, Польшча, па нацыянальнасці татарка), швачка, пражывала у г. Мінску. Арыштавана 28 ліпеня 1938 г., асуджана 8 кастрычніка 1941 г. Асобай нарадай пры НКУС СССР як

член сям'і здрадніка радзімы да 5 гадоў ППЛ. Рэабілітавана 12 лютага 1958 г. Ваенным трыбуналам БВА.

**ІДРЫСАЎ** Зарзіс Ідрысавіч (1895, в. Альберушынск Казанскай губерні, па нацыянальнасці татарын), надзіральнік, пражываў у г. Мінску. Арыштаваны 4 лютага 1925 г., асуджаны 26 чэрвеня 1925 г. Асобай нарадай пры НКУС СССР за шпіянаж да 3 гадоў паражэння ў правах. Рэабілітаваны 24 чэрвеня 1992 г. Пракуратурай БВА.

**ІСКІНДЗЯРАЎ** Ганей Фектупавіч (1874, г. Саранск Мардоўскай АССР, па нацыянальнасці татарын), без пэўных заняткаў, пражываў у г. Мінску. Арыштаваны 17 снежня 1944 г., асуджаны 29 снежня 1945 г. Асобай нарадай пры НКУС СССР за антысавецкую агітацыю да 1 году і 1 месяцу ППЛ. Рэабілітаваны 20 чэрвеня 1989 г. Пракуратурай БССР.

**КАНАПАЦКАЯ** Ліма Сулейманаўна (1924, м. Смілавічы Рудзенскага раёна, па нацыянальнасці татарка), не працавала, пражывала ў г. Мінску. Арыштавана 25 ліпеня 1944 г., асуджана 1 верасня 1945 г. Асобай нарадай пры НКУС СССР за пасобніцтва нямецкім акупантам у гады Вялікай Айчыннай вайны да 4 гадоў ППЛ. Рэабілітавана 28 снежня 1989 г. Пракуратурай Мінскай вобласці.

**КАНАПАЦКІ** Ібрагім Якаўлевіч (1899, м. Смілавічы Мінскага раёна, па нацыянальнасці татарын), калгаснік калгаса "Інтэрнацыянал", пражываў у м. Беразіно Мінскай вобласці. Арыштаваны 29 снежня 1932 г., асуджаны 28 сакавіка 1933 г. Тройкай за антысавецкую агітацыю і шкодніцтва да 5 гадоў ППЛ. Рэабілітаваны 29 верасня 1960 г. Прэзідыумам Мінскага абласнога суда.

**КУРБАН-ГАЛЕЕЎ** Саліхзян Акмальдзінавіч (1906, в. Карыян Татарскай рэспублікі, па нацыянальнасці татарын), ваеннаслужачы 79-га стралковага палка, пражываў у г. Лепелі Віцебскай вобласці. Арыштаваны 12 верасня 1930 г., асуджаны 13 снежня 1930 г. Асобай нарадай пры НКУС СССР за правядзенне контррэвалюцыйнай агітацыі да 3 гадоў ППЛ. Рэабілітаваны 20 лістапада 1989 г. Ваеннай пракуратурай БВА.

**ЛЕБЕДЗЬ** Аляксандр Ібрагімавіч (1909, г. Мінск, па нацыянальнасці татарын), тэхнік-геолаг Белпрампраекта, пражываў у г. Мінску. Арыштаваны 3 кастрычніка 1944 г., асуджаны

24 лістапада 1945 г. Асобай нарадай пры НКУС СССР за здраду радзіме да 8 гадоў ППЛ, з 1952 г. высланы ў Варкуту. Рэабілітаваны 29 верасня 1956 г. Пастановай Прэзідыума Мінскага абласнога суда.

**МІСКЕВІЧ** Хота Хосенеўна (1914, г. Капыль, па нацыянальнасці татарка), без пэўных заняткаў, пражывала ў г. Капыль Мінскай вобласці. Арыштавана 3 лютага 1950 г., асуджана 6 кастрычніка 1950 г. Асобай нарадай пры НКУС СССР як агент паліцыі да 10 гадоў ППЛ. Рэабілітавана 1 жніўня 1990 г. Мінскім абласным судом.

**МУРЗА-МУРЗІЧ** Ібрагім Халільевіч (1868, г. Навагрудак, па нацыянальнасці татарын), ст. бухгалтар Дзяржбанка, пражываў у г. Мінску. Арыштаваны 15 сакавіка 1933 г., асуджаны 15 мая 1933 г. Тройкай за антысавецкую дзейнасць да 3 гадоў высылкі. Рэабілітаваны 10 лістапада 1989 г. Пракуратурай БССР.

**МУХА** Абда Якаўлевіч (1878, м. Мір Навагрудскага павета, па нацыянальнасці татарын), вартаўнік Белкамунбудтрэста, пражываў у г. Мінску. Арыштаваны 9 сакавіка 1938 г., асуджаны 14 сакавіка 1938 г. Тройкай за антысавецкую агітацыю да ВМП. Расстраляны 26 сакавіка 1938 г. Рэабілітаваны 15 красавіка 1989 г. Пракуратурай БССР.

**МУХА** Аляксандр Сулейманавіч (1892, м. Мір, па нацыянальнасці татарын), бухгалтар на станцыі Мінск Заходняй чыгункі, пражываў у г. Мінску. Арыштаваны 26 лістапада 1937 г., асуджаны 18 сакавіка 1938 г. Судзебным органам за антысавецкую агітацыю да 3 гадоў ППЛ з паражэннем у правах на 3 гады. Рэабілітаваны 24 лістапада 1989 г. Вярхоўным судом БССР.

**МУХЛЯ** Аляксандр Сцяпанавіч (1892, г. Мінск, па нацыянальнасці татарын), калгаснік калгаса "Чырвоны агароднік", пражываў у г. Мінску. Арыштаваны 5 снежня 1930 г., асуджаны 26 снежня 1930 г. Тройкай як удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі да 3 гадоў ППЛ. Рэабілітаваны 30 чэрвеня 1989 г. Пракуратурай Мінскай вобласці.

**МУХЛЯ** Канстанцін Мустафавіч (1895, г. Мінск, па нацыянальнасці татарын), брыгадзір-тэлеграфіст Мінскага цэнтральнага тэлеграфа, пражываў у г. Мінску. Арыштаваны 16 кастрычніка 1937 г., асуджаны 14 снежня 1937 г. Камісіяй

нимающий пост в наивысшем суде Польши; 2. Абдул-Хамид Хурамович — Председатель Варшавского отдела Объединения культурно-просветительского татар Польши, он же референт польской сберегательной кассы в Варшаве; 3. Майор Янович-Чаинский из Слонима; 4. Ибрагим Миськевич из Новогрудка; 5. Эдиге Шинкевич из Вильно, и иные из других местностей, которых не помню, не знал.

Присутствовали также многие мусульмане г. Варшавы, большинство же присутствующих, примерно до 400 человек, состояло из представителей польской общественности, сгруппированных в разных политических и общественных организациях. Представители бывших польских властей на упомянутых церемониях не присутствовали. На 3-й большой церемонии присутствовали национальные группы эмиграции Идель-Урала, Крыма, Азербайджана, Грузии, Украины, Сев. Кавказа, проживающие в Варшаве, а также приезжие татары Идель-Урала из Финляндии, Турции и Германии. Церемонии I и II происходили утром до обеда, на которых выступали: на I: профессор Ольгерд Гурка, от Восточного института — Бончковски, от "Прометеуша" — руководствующие группами эмигрантов с приветствиями; на II: Аяз Исхаки, Бончковски, руководствующие группами эмигрантов с приветствиями. На церемонии татар Крыма была выставка рукоделия крымских татар в Румынии. Вечером, на церемониях "XX-летие Курултая Крыма" и "XX-летие Курултая Идель-Урала" были танцы общеевропейские. На этих вечерах с танцами я как духовный не присутствовал. Основные вопросы, каких касались речи и приветствия, были исторические события прошлого национальных групп, а также проблемы восстановления независимости через оторвание Крыма, Идель-Урала и иных от СССР.

На указанных пяти мелких собраниях присутствовали, кроме профессоров Гурки и Бончковского, эмигрантские группы Идель-Урала, Крыма, Азербайджана и Сев. Кавказа, а также представители разных польских общественных организаций.

На открытых докладах секции "Коло молодых ориенталистов" и лекциях профессоров и знатоков Востока присутствовало обыкновенно небольшое число слушателей, состоящих из студенческой молодёжи Восточного института — Института Востоковедения, историко-филологического факультета Вар-

шавского государственного университета, также небольшого числа польской общественности. Я на этих докладах бывал редко.

Кроме докладов и лекций, в зале Восточного института 2 раза в год на большие годичные мусульманские праздники Рамазан-Байрам и Курбан-Байрам устраивались Варшавским отделением культурно-просветительского объединения татар танцевальные вечера, на которые собиралась молодёжь и взрослые мусульманского вероисповедания, а также приглашаемые среди немусульман. Танцевальные вечера начинались самодеятельностью молодёжи. Детям раздавались подарки. Взрослые танцевали и имели буфет. Эти собрания имели целью объединение разных национальных групп. На официальных церемониях и собраниях я выступал в одеянии духовного, на докладах же и танцевальных вечерах бывал в гражданской одежде.

Возвращаясь к своей деятельности в группах татарской эмиграции Крыма и Идель-Урала, подчёркиваю свою недолговременную работу от 1938 г., полагающуюся на возможно лучшем представлении заботы бывшего польского правительства о польских татарах, а также по инструкции профессора Ольгерда Гурки в стремлении объединения групп мусульман, среди которых наряду с дружескими отношениями существовали споры. Татарская эмиграция на территории бывшей Польши была немногочисленная: группа татар Крыма состояла одно время из 3 человек — Вели Селима, Ортая и Абдуллы Зигни, группа же татар Идель-Урала была более многочисленной, но состояла главным образом из казанских татар, проживающих в Варшаве 40–50 лет с семьями, как Аксановы, Фазлисы, Мухамеджаны, Курамшины. Мусульманский элемент г. Варшавы был текучий, было много сезонных торговцев — персов, турок — владельцев кондитерских и пекарен, которые не принимали участия в общественной жизни. Группа польских татар состояла из целого ряда служащих в государственных учреждениях, студентов и военных, которые в большинстве не принимали участия в движении татарских эмигрантских групп, направленных против СССР.

Упомянутые выше две большие церемонии — собрания празднования "XX-летия Курултая татар Крыма" и "XX-летия Курултая татар Идель-Урала" были широко описаны в польской прессе, корреспондентами газет, приглашёнными на цере-

монии. Описание церемоний этих было также обширно подано в журналах групп эмиграции, таких как "Сев. Кавказ" (Париж), "Милли Байрок" — орган Идель-Урала, издаваемый в Мукдене, "Догру иол" — орган крымских татар, проживающих в Румынии, "Яны иол" — орган Идель-Урала, издаваемый в Берлине.

Беседа с профессором Ольгердом Гурка, вызвавшая моё примыкание к татарским эмиграциям Идель-Урала и Крыма, касалась также моего присутствия в посольствах Турции, Египта и Ирана, эти присутствия вызваны были в посольстве Турции смертью Кемаль-паши и годовщиной Республики Турецкой, в посольстве Египта — работой Комитета по постройке мечети в Варшаве. Были надежды, что посольство Египта придёт с материальной помощью в деле постройки мечети. Лучше всего зная посла Ирана Ахмед Сияга, знакомство это было вызвано фактом 2 венчальных церемоний в посольстве Ирана, а также разводом одной пары, прежде мною повенчанной. Венчание в самом посольстве Ирана было обусловлено тем, что граждане Ирана, проживающие один в Берлине, другой — в Берне, венчались с немками. Посольства Турции, Ирана и Египта приглашали меня как мусульманского духовного г. Варшавы, я же со своей стороны в беседе с членами посольства и гостями, там находящимися, по инструкции доктора Ольгерда Гурки, говорил о положении мусульман в Польше, освещая его с наиболее лучшей стороны.

В дальнейшем перехожу к характеристике своей работы по инструкции того же профессора Ольгерда Гурки в годах 1933–1936 среди национальных групп студентов Аль-Азкара и египетской общественности.

**А. Воронович.**

***

# ГІСТОРЫЯ ПОЛЬШЧЫ СА СТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА НАШЫХ ДЗЁН

У 1995 г. ў Варшаве выдана кніга, якую склалі Дыбкоўская, Малгажата Жарын і Ян Жарын. Надрукавана ў красавіку 1995 г. ў Лодзі. 17 каляровых карт, 30 чорна-белых карт, больш за 70 ілюстрацый. Вельмі добра, што ў кнізе надрукаваны партрэты ўсіх князёў палян, польскіх князёў і каралёў. Паказальнік імёнаў (каля 800) дае магчымасць хутка адшукаць інфармацыю пра таго ці іншага чалавека, які нечым дачыніўся да гістарычных падзей дзяржавы.

Змест кнігі, надрукаваны на 375–381-й старонках, змяшчае падрабязную рубрыкацыю, а спіс ілюстрацый дае цікаўнаму чытачу магчымасць даведацца, адкуль выданне запазычыла арыгіналы і дзе яны знаходзяцца.

На вокладцы гэтай хораша выданай кнігі надрукаваны партрэты вядомага кожнаму паляку польскага князя Мешкі Першага і вядомага кожнаму паляку і католіку ў свеце — рымскага папы Іаана Паўла Другога.

Думаю, што той польскі школьнік, які завяршыў сярэдняю адукацыю і марыць атрымаць вышэйшую, ведае гісторыю сваёй радзімы больш падрабязна, а таксама і калягістарычныя легенды і паданні. Для замежных чытачоў, калі яны не ставілі сабе за мэту вывучыць гісторыю сваёй краіны-суседкі, аб'ём ведаў пра Польшчу абмяжуецца тым, што надрукавана ў гэтай кнізе.

Я як татарын перш за ўсё пачытаў, што ў гэтым прыгожым выданні надрукавана пра татар. У першым раздзеле, у падраздзеле "Польшча ў час феадальнай раздробленасці" ёсць такая рубрыка: "Татарскае нашэсце" (старонкі 28–30, цэлую старонку займае там аблога Легніцкага замка татарамі ў 1241 г.). Вось некалькі радкоў з гэтай рубрыкі. Падаюцца яны як інфармацыя славутага польскага гісторыка Яна Длугаша (1415 — 10.05.1480): "В том же году (1241) произошла битва под Легницей. Сражение шло с переменным успехом, татары, прибегая ко всевозможным хитростям, пытались запугать поляков. Они издавали устрашающие крики, водружали на шесты

омерзительные головы, из которых сочились боевые газы. В конце концов польское войско не выдержало натиска превосходящих сил противника..."

Паводле Яна Длугаша, іншых гісторыкаў і тых гісторыкаў, якія склалі "Гісторыю Польшчы" (1995), татары выкарысталі баявыя газы. Відаць, ні на татар, ні на іх коней гэтыя газы не дзейнічалі. А можа татары і іх коні карысталіся супрацьгазавымі сродкамі? Ад 1241 г. (бітва пад Легніцай) да 1430 г. (свядомае жыццё Яна Длугаша) — каля 200 гадоў, ды і да сённяшняга дня існавала і ўздзейнічала на людзей гэтая неразумная выдумка пра варвараў-татар, якія труцілі людзей газамі.

Што і як сказана ў "Гісторыі Польшчы" пра Грунвальдскую бітву? У падраздзеле "Ягелонская манархія ў XV стагоддзі" ў рубрыцы "Вялікая вайна з крыжакамі" (старонкі 61–63, з якіх паўстаронкі займае гравюра з хронікі М. Бельскага) сказана, што: "Польский король призвал добровольцев из Чехии и Моравии, а в войсках Витольда оказался даже один татарский отряд". Далей пра гэту найвялікшую ў XV ст. бітву ў Еўропе напісана ў "Гісторыі Польшчы" літаральна наступнае: "...15 июля разгорелась великая битва на полях под Грюнвальдом. В схватке участвовали две армии, каждая из которых насчитывала около 20 тысяч закованных в доспехи воинов. После тяжёлых и кровавых боёв тевтонские рыцари были разгромлены, а великий магистр Ордена Ульрих фон Юнгинген погиб в сражении. Победа под Грюнвальдом имела огромное значение для Польши и Литвы: Орден впервые потерпел такое сокрушительное поражение, ставшее началом его постепенного упадка.

На известие о победе Ягелло раскрывались ворота укреплённых поморских городов, а их жители сдавались польскому королю. И если бы Владислав, король польский, быстрым переходом приступил к Мальборку (...), он в первый же день по прибытии овладел бы замком (...). Крестоносцы, духовные и светские и прочие защитники Мальборкского замка, как безумные, бегали по дворам, домам и горницам много дней и ночей, предаваясь плачу и скорбным жалобам", — написал не жаловавший короля Длугош".

Вось, практычна, і ўсё, што ведае пра гэтую бітву звычайны ядак бульбы.

Калі ж чытаць гісторыю гэтай найбольшай бітвы XV ст. па рускіх падручніках, якія друкаваліся ў СССР, то там з вялікай увагай і павагай сказана, апіраючыся на цытаты з Яна Длугаша, якую выдатную, вырашальную ролю ў гэтай бітве адыгралі рускія палкі. Праўда, пры гэтым нешта не ўпамінаюць, што Васіль І Дзмітрыевіч (1371–1425), вялікі князь маскоўскі ў 1389–1425 гг., зяць Вялікага Вітаўта, жанаты з Соф'яй, яго дачкой, не прыйшоў на дапамогу Беларуска-Літоўскай Дзяржаве, калі вырашаўся лёс беларускага, літоўскага і польскага народаў. Чакаў, — каб захапіць землі Беларусі, калі войска Вітаўта будзе разбіта крыжакамі. Аршанская, смаленская і мсціслаўская харугвы пад камандаваннем князя Сямёна (Лунгвана) Альгердавіча (стрыечны брат Вітаўта) не былі ні ў якім разе маскоўскімі, і тут ніяк нельга, каб да цяжкай бітвы "прымазваўся" той, хто не меў да яе ніякага дачынення.

А якое ж дачыненне да гісторыі Польшчы меў Якуб Ясінскі? У раздзеле "Выбарныя каралі", у падраздзеле "Праўленне Станіслава Аўгуста Панятоўскага" ёсць рубрыка "Паўстанне Касцюшкі (1794)". На старонцы 160 — такі радок: "Вильно захватили повстанцы под командованием полковника Якуба Ясиньского".

Чытачы "Байрама" маглі пачытаць артыкул пра Я. Ясінскага, які 11 траўня 1794 г. атрымаў ад Т. Касцюшкі вайсковае званне генерала-лейтэнанта. 20 кастрычніка 1794 г. прыбыў у Варшаву, 4 лістапада 1794 г. у прадмесці Варшавы — Празе загінуў у баі з рускім войскам А. Суворава. Паэт, якабінец, патрыёт Бацькаўшчыны быў яшчэ пры жыцці ўзнагароджаны адным з першых Ордэнам Віртуці Мілітары. У "Энцыклапедыі Варшавы" на 292-й старонцы ёсць пра яго артыкул.

Можа аўтары кнігі "Гісторыя Польшчы" маюць права не прызнаваць званне генерал-лейтэнанта, якое прысвоіў Якубу Ясінскаму Тадэвуш Касцюшка?

Вядома, у любым плоце можна знайсці дзіркі. Крыўдна толькі, што ў многіх чытачоў хораша надрукаваная кніга сваёй інфармацыяй, не зусім дакладнай, зойме нейкую прастору чалавечай памяці, а ў многіх яна такой недакладнай і застанецца.

**Якуб Якубоўскі.**

***

# НЕВЯЛІКІ АБРАЗОК З ЖЫЦЦЯ ТАТАРСКАЙ СЯМ'І НА БЕЛАРУСІ Ў 1943 І 1944 ГАДАХ

Прыйшоў час напісаць некалькі радкоў пра тое, як жыла звычайная татарская сям'я ў час вайны. У нас у сям'і было: двое бацькоў — Раіса і Адам, Хасень і пляменнік маёй маці Азюлёк — падлеткі па 14 гадоў, я, Куба, 10 гадоў, браты Адам (6 гадоў) і апошні — Ібрагім. У нашым мястэчку, пераважна населеным беларусамі-католікамі, жыла яшчэ адна татарская сям'я — Гембіцкіх, у якой было трое дзяцей. Да вайны чамусьці у нас з імі вялікай дружбы не было, хоць і спрэчак-зварак таксама не было. У першы і другі клас ў 1938–1939 і 1939–1940 гг. я разам з Аміняй Гембіцкай хадзіў у адзін клас. У цёплую пару, калі па раскладзе ў школе ў дзяцей-католікаў быў урок па рэлігіі, мы з Аміняй былі вольныя ад лекцый, таксама як і габрэйскія дзеці. У дрэннае надвор'е ўвосень і ўзімку на лекцыях рэлігіі мы сядзелі на сваіх месцах за партамі і слухалі тлумачэнні ксяндза і адказы вучняў, хто такі Бог, дзе Ён знаходзіцца і што Ён усё бачыць, усё ведае, што чыніць чалавек. Гэта і іншыя палажэнні не пярэчыла таму, аб чым гаварылі нам нашы бацькі.

Увосень 1939 г. пачалася вайна, многія маладыя мужчыны былі мабілізаваны на фронт і ваявалі супроць немцаў. 18 верасня 1939 г. на нашу тэрыторыю прыйшла Чырвоная Армія: танкі, аўтамашыны, конніца, пяхота, абозы. У кастрычніку ў школе пачалі выкладанне па-беларуску, а лекцый па рэлігіі ўжо не было.

У чэрвені 1941 г. пачалася вайна, але гэта адбылося так хутка, што пра тое, што вайна Айчынная, мы даведаліся не адразу. Магутная армія неяк прапала, прапала і тэхніка, толькі доўга яшчэ ішла пяхота, а затым доўгія калоны ваеннапалонных пад канвоем немцаў, а пасля — страшныя расказы пра тое, што недзе каля Глыбокага, у Баразвечы, за калючым дротам галадаюць і гінуць рускія ваеннапалонныя. Некаторыя бацькі запасаліся царскімі манетамі, каб паехаць у Глыбокае і выкупіць у немцаў сваіх родных. Можа некаму і надарылася такое шчасце, але ў нашай акрузе нікому не ўдалося выйсці на волю. Хоць былі легенды і пра тое, што нечы бацька, не знайшоўшы за дротам сына, выкупіў з месца загубы юнака, які быў падобны да яго, і гэта зрабіў як ахвяру на карысць Бога.

У 1943 г., асабліва пасля таго, як у фашыстаў адбылася катастрофа пад Сталінградам, пачаліся дзеянні партызанаў на чыгунцы. У нашай мясцовасці не так ужо і многа было чыгунак, але масты цераз шашэйныя дарогі партызаны палілі. Нападалі і на невялічкія акупацыйныя фашысцкія гарнізоны. У большасці сваёй яны складаліся з беларускага насельніцтва, было па некалькі чалавек у такім гарнізоне немцаў. Чым займаўся гарнізон? Абкладалі людзей падаткамі: забіралі збожжа, бітых і жывыхі свіней, гавяду, добрых коней, добрыя кажухі, рукавіцы, часта хадзілі па хатах і бралі тое, што мела нейкую вартасць і што можна было адправіць у Германію. Не адзін раз у кожнай мясцовасці быў нямецкі "хапун": акружалі салдаты вёску, мужчын, дзяўчат хапалі і пад канвоем вывозілі на прымусовыя работы ў Германію. Адны там пад амерыканскімі і англійскімі бомбамі загінулі, другія вярнуліся ў 1945 г. да сваіх сем'яў, а былі такія, што засталіся ў заходніх зонах акупацыі — амерыканскай, англійскай, французскай.

Для нашай сям'і вельмі памятным і трагічным быў лістапад 1943 г. Гэта пасля я даведаўся, што камадзір партызанскай брыгады Маркаў Фёдар Рыгоравіч [1] і Маслоўская Ганна Іванаўна [2] са сваім штабам распрацавалі і ажыццявілі разгром варожага гарнізона ў Камаях. А ў 1943 г. партызаны падпалілі будынак былой Камайскай МТС і з другога боку мястэчка — млын. На фоне гэтага пажару фашысты нямецкага гарнізона (ён складаўся з літоўскіх салдат) перастралялі з кулямётаў некалькі дзесяткаў партызан. А што рабілі тыя партызаны, якія былі воддаль ад непасрэднага месца бою? Займаліся "нарыхтоўкамі" адзення, абутку, таго, што людзі трымаюць у скрынях. Падпальвалі саламяныя стрэхі, а тады, калі людзі выносілі з хат сваю маёмасць, ужо адбіралі, што ім трэба. Памятаю, як адзін з партызанаў казаў, выграбаючы бялізну з куфра маёй маці: "Бери, халаты сошьём". Калі адзін з гэтых "нарыхтоўшчыкаў" спытаў у мяне, што я трымаю ў руках, я адказаў: "Цукар". "Говно", — сказаў нарыхтоўшчык і стукануў у торбачку прыкладам. Пасля торбачку мы паднялі і цукар з'елі, хоць яго і абазвалі так брыдка.

Пажар быў вялікі, згарэла можа 30 жылых і гаспадарчых будынкаў. Бачылі пажар і нашы татары-супляменнікі ў маленькай татарскай вёсачцы Якавішкі. Там былі тры хаты — Базарэвічы, Ільясевічы і яшчэ адна сям'я, якую называлі Якубівіха. Жыла там жанчына з унучкай, а яе сына, бацьку ўнучкі, забілі проста так п'яныя сяляне, якія везлі з лесу будаўнічую драўніну, добра выпіўшы. А чаму б не забіць недаверка-татарына? І ніхто ў той ваенны час не цікавіўся, чаму забілі і за

што. Магчыма, Аллаг гэта злачынства не пакінуў без пакарання. Няхай забойцам гэта так і застанецца смяротным грахом на сумленні.

Не цяжка сабе ўявіць, якая была ноч тады ў Камаях у 1943 г. Снег на вуліцах растаў і высах ад гарачыні. Каля комінаў дагаралі пажарышчы, толькі тады ўбачылася, якія яны доўгія — разам з печамі і грубкамі вышынёй на 6–7 метраў.

Сям'я татар Гембіцкіх адразу запрасіла нас да сябе. Акрамя нашай сям'і з 7 чалавек, хаты і другіх людзей былі спалены. Назаўтра мы, дзеці, пайшлі на пажарышча. Бочка капусты, якую заквасілі на зіму, згарэла, але тушаную гародніну мы паелі. Старэйшыя мае браты хадзілі есці тушаную страву яшчэ некалькі дзён. Была і яшчэ праблема: карову мы з хлява выпусцілі, і яна, разумніца, некуды зышла, выратавалася ад смерці. Але дзе знайсці места паставіць яе ў хлеў, за што купіць корм скаціне на зіму? А без каровы як пракарміць дзяцей?

Мяне і малодшага брата Адама ўзялі ў Якавішкі татары. Самі не надта мелі што есці, а нас трымалі і кармілі тым, што самі елі. Амаль кожную ноч прыходзілі на гэтую вёсачку "нарыхтоўшчыкі". Відаць, хутчэй за ўсё гэта былі не партызаны, а рабаўнікі. Забіралі ўсё меўшае хоць якую гаспадарчую цікавасць. Праўда, за гэтыя зімовыя месяцы быў і такі выпадак. Увечары прыйшлі партызаны, можа каля дзесяці чалавек, хараша пелі, некалькі слоў я запомніў: як выбаўляў партызан з палону сястру, якую зняволілі немцы. Пагасцяваўшы даволі доўга, яны папрасілі, каб завялі іх у другую вёску. Праз некалькі гадзін нашы татары на двух санях адвезлі іх, як пасля аказалася, у вёску Гурніцу.

У канцы сакавіка 1944 г. нас адвезлі суседзі ў Камаі, а адтуль — у Відзы, дзе была ў нас дзедаўская сякая-такая хатка. Неяк дажылі мы да ліпеня, калі нас ад акупантаў вызваліла Чырвоная Армія.

Я, відаць, адзін з сям'і, хто ні то каб хаваў сваё мінулае, але і не хваліўся, што нашу хату спалілі. Вядома, дакладна сказаць, маўляў, спалілі нас партызаны, я не магу. Можа гэта была нямецкая правакацыя, каб спіхнуць адказ на партызан?

Яшчэ мне думаецца: а каб наша хата тады не згарэла, зусім засталася? Бо яна была крыху воддаль ад другіх дамоў і магла б не заняцца агнём. Але добра памятую, як з дома Палюляніхі выцягнулі са страхі вехаць запаленай саломы і падсунулі пад страху нашай хаты. А колькі ж разоў мне ў сне бачылася свая тая хатка, якая ж яна была родная. Пах роднай хаты я, здаецца, адчуваю і цяпер.

А што было б, каб наша хата ўцалела? Вядома, паліцыя (паліцаі) маглі падумаць, ці не спецыяльна партызаны нас узялі пад апеку. Дык

усё тое, што робіцца, робіцца ўрэшце рэшт да лепшага. Нам Аллаг даў такі лёс — мы жывём, а нашых крыўдзіцеляў ужо даўно напаткаў марны лёс.

**Якуб, Адам.**



## Спасылкі

1. Маркаў Фёдар Рыгоравіч, Герой Савецкага Саюза (1.01.1944 г.). Нарадзіўся 24.12.1913 г. ў вёсцы Качанішкі Швянчонскага раёна Літоўскай ССР. З сялян. Рускі. Член КПСС з 1934 г. Скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б) (1948 г.). За рэвалюцыйную дзейнасць у Заходняй Беларусі ў 1936–1939 гг. быў пасаджаны ў Бяроза-Картузскі канцлагер, затым у Віленскую турму. У 1939–1941 гг. — старшыня Свянцянскага гарсавета, намеснік старшыні Вілейскага аблвыканкама. З 1941 г. — у партызанах, камандзір спецгрупы атрада імя Суворава. Са снежня 1942 г. — камандзір партызанскай брыгады імя К.Я. Варашылава, якая дзейнічала на Вілейшчыне і ў Швянчонскім раёне Літоўскай ССР, адначасова з красавіка 1943 г. — начальнік ваенна-аператыўнага аддзела Вілейскага партызанскага злучэння.

*(З кнігі "Навечна ў сэрцы народным", 2-е выданне, дапоўненае і выпраўленае. Мн., 1977, с. 294).*

2. Маслоўская Ганна Іванаўна, Герой Савецкага Саюза (15.08.1944 г.). Нарадзілася 6.01.1920 г. ў вёсцы Курсевічы Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. З сялян. Беларуска. Член КПСС з 1949 г. Да вайны працавала старшай піянерважатай ў Лынтупскай школе Пастаўскага раёна. У чэрвені 1941 г. добраахвотна ўступіла ў Чырвоную Армію. Трапіўшы ў акружэнне, наладзіла сувязь з партызанамі і ў 1942 г. па заданні падпольнай партыйнай арганізацыі з мэтай разведкі ўладкавалася на работу ў абслугоўваючую эсэсаўцаў кравецкую майстэрню. З дапамогай Г.І. Маслоўскай падпольшчыкі знішчылі гітлераўскага генерала. Са снежня 1942 г. Г.І. Маслоўская — член Пастаўскага падпольнага райкама камсамола. З мая 1943 г. — намеснік камісара па камсамольскай рабоце атрада імя Пархоменка партызанскай брыгады імя Варашылава Вілейскай вобласці. Удзельнічала ў баявых аперацыях па разгроме варожых гарнізонаў у Залессі, Лынтупах, Камаях, у знішчэнні 3 варожых эшалонаў і ў падрыве 270 рэек.

*(З кнігі "Навечна ў сэрцы народным", 2-е выданне, дапоўненае і выпраўленае. Мн., 1977, с. 299).*

***

# ІДЭГЕЙ — ТАТАРСКІ НАРОДНЫ ЭПАС

Кацярына ІІ, хоць па паходжанні была не руская, але на многа гадоў вызначыла ідэалогію рускага дзяржаўнага кіраўніцтва. Гвалтоўнае далучэнне сумежных тэрыторый, народы якіх мелі няшчасце жыць па суседстве з драпежнай імперыяй і пападалі ў залежнасць ці зусім страчвалі вольнасць, маёмасць, веру і мову. Захапіўшы Крымскае ханства ў канцы XVIII ст., Кацярына ІІ сказала: "Які б цудоўны быў край, калі б не было татараў". Войска, чыноўнікі, прадпрымальнікі рабілі ўсё, каб ачысціць Крым ад татараў. У 1944 г. нашчадкі Кацярыны ІІ дамагліся таго, што Крым стаў вольным ад татар. Праўда, сёння яны зноў пасяліліся на гэтых землях і яшчэ дамагаюцца права выбіраць і быць абранымі на розныя пасады.

Казанскія татары... Яны з XVI ст. ўсё за нешта змагаліся і змагаюцца. Ім далі магчымасць вызнаваць праваслаўную веру, ім, нарэшце, пераклалі на татарскую мову свяшчэннае хрысціянскае пісанне, ім замянілі іх незразумелыя арабскія літары на лацінскую графіку, а затым, у канцы 30-х гг. XX ст., замянілі на кірылічную. Няхай бы думалі па правілах, на рускай мове. Ужо палова татараў у Татарстане не ведае татарскай мовы. А хто такі Ідэгей? Ну, гэта нейкі чалавек з народнага татарскага эпасу.

За некалькі месяцаў да перамогі, беражліва захоўваючы ў сваёй памяці сюжэты і песні эпасу, татарскі народ быў ашарашаны пастановай аб тым, што для яго "шкодны" не толькі гэты "ханска-феадальны" эпас, але яму таксама след забыцца праўду аб яго сярэдневяковай гісторыі. Словы і тэкст пастановы ЦК ВКП(б) ад 9 жніўня 1944 г. "Аб стане і мерах паляпшэння масава-палітычнай і ідэалагічнай работы ў Татарскай партыйнай арганізацыі" сфармуляваны, як бачна з загалоўка, зусім навукова і карэктна.

Чаму ж пачаўся такі націск на ўсё татарскае ў Расійскай Федэрацыі? Таму што "татары пачалі прыхарошваць Залатую Арду і папулярызаваць ханска-феадальны эпас аб Ідэгеі, які арганізоўваў грабежніцкія паходы на Русь". Калі не лічыць толькі мімаходзь згаданы грабежніцкі паход "рыжабародага князя" на булгарскія гарады, рускія як такія ў эпасе не фігуруюць наогул. Названы ж выпадак, хутчэй за ўсё, належыць толькі да

аднаго са шматлікіх грабежніцкіх наездаў наўгародскіх ушкуйнікаў, з кім, дарэчы, упартую барацьбу вялі і самі рускія князі.

Якія адносіны, якое дачыненне да беларускіх татар мае Ідэгей? Непасрэднае. Тактамыш — гэта Тахтамыш, як прынята пісаць у беларускіх гісторыкаў. Год нараджэння невядомы, памёр (забіты) у 1406 ці 1407 г. Хан Залатой Арды з 1380 г. Ён і Аксак-Цімір(1336–1405; у беларускіх гісторыкаў — Цімур) спачатку былі ў прыязных адносінах. Цімур быў эмірам — найвышэйшае вайсковае званне, фактычна самы магутны чалавек у Сярэдняй Азіі. Тахтамыш — законны хан Залатой Арды, чынгізід (нашчадак Чінгісхана). Цімур даслаў ліст Тахтамышу, просячы перадаць яму славутага паляўнічага сокала, якім ганарыўся Тахтамыш. Але такая бяскрыўдная просьба мела глыбокі падтэкст: калі Тахтамыш пашле сокала, то гэтым прызнае верхавенства Цімура над ім, законным ханам. Гісторыя ведае, што ханы, эміры ці іншыя дэспаты заўсёды шукалі і знаходзілі знешніх і ўнутраных ворагаў. Асабліва лёгка было знайсці ўнутранага ворага, яго і пакараць лёгка. Тахтамыш абвінаваціў свайго сакалятніка Кутлукыя ў здрадзе свайму хану і гатоўнасці ці спробе перайсці на бок Цімура. Дэспат-хан загадаў адсекчы галаву сакалятніку, дом спаліць, а малога сынка Ідэгея забіць. Гэта чуў добры чалавек, таксама прыбліжаны Тахтамыша, які вырашыў ратаваць нявіннае дзіця — Ідэгея. Ён падмяніў у калысцы прызначанага для загубы хлопчыка, ахвяраваўшы сваім сынком. Ідэгея гадаваў у сваёй сям'і, і ніхто аб гэтым не ведаў. Хлопчык на дзіва хутка рос, разумнеў, узмужнеў. У час вайны паміж Цімурам і Тахтамышам Тахтамыш быў разбіты. Ён уцёк у Беларуска-Літоўскую Дзяржаву і прывёў сюды нашых продкаў, якія сталі пасля беларускімі татарамі. Ідэгей стаў палкаводцам у Цімура і адпомсціў Тахтамышу.

Народныя паданні пра Ідэгея сабраў, даследаваў, склаў у пэўным парадку Сямён Ліпкін. Больш за 40 гадоў гэты цудоўны літаратурны твор нельга было надрукаваць. Нарэшце ў 1990 г. выйшла кніга "Ідэгей — татарскі народны эпас". Пераклад Сямёна Ліпкіна. Вось яе змест:

Песня першая: Аб Тактамыш-хане, аб спрэчцы яго з Аксак-Цімірам, а таксама аб тым, як Тактамыш-хан прыгаварыў Кутлукыя-бія і яго сына да пакарання смерцю.

Песня другая: Аб тым, як Ідэгей рос пад імем Кубугыла і стаў суддзёю пры палацы Тактамыш-хана.

Песня трэцяя: Аб тым, як Тактамыш загадаў сваім біям выпрабаваць, хто такі ў сапраўднасці Кубугыл.

Песня чацвёртая: Аб тым, як Тактамыш-хан, выслухаўшы прадказанне Субры ў песні, выпрабоўваў Ідэгея.

Песня пятая: Аб тым, як Ідэгей уцёк да Аксак-Ціміра.

Песня шостая: Аб тым, як Ідэгей ваяваў у дарозе з Кара-Ціін-Алыпам і вызваліў Акбіляк — дачку Аксак-Ціміра, а таксама сорак нявольнікаў.

Песня сёмая: Аб тым, як Ідэгей прыбыў да Аксак-Ціміра і прывёз яму яго дачку Акбіляк.

Песня восьмая: Аб тым, як Тактамыш-хан зганьбаванага Нурадына прагнаў.

Песня дзевятая: Аб тым, як Нурадын прыбыў да бацькі, і аб паходзе Ідэгея разам з Аксак-Ціміpам на хана Тактамыша.

Песня дзесятая: Аб тым, як быў зганьбаваны Аксак-Цімір, уступіўшы ў бітву з ханам Тактамышам.

Песня адзінаццатая: Аб тым, як Ідэгей біўся з войскам хана Тактамыша.

Песня дванаццатая: Аб тым, які жаль агарнуў хана Тактамыша, калі ён уцёк з Сарая, і аб тым, як Ідэгей прыбыў у разбураны Булгар.

Песня трынаццатая: Аб тым, як Нурадын забіў Тактамыша.

Песня чатырнаццатая: Аб тым, як Нурадын сустрэў Джанбая, паспрачаўся з ім, і аб тым, як Джанбай угнявіў Ідэгея з Нурадынам.

Песня пятнаццатая: Аб тым, што сказаў Нурадыну паранены Ідэгей, і аб тым, як Нурадын пакінуў яго.

Песня шаснаццатая: Аб тым, як Нурадын, вярнуўшыся, прагнаў бацьку, і аб тым, як Ідэгей пайшоў у казакі.

Песня семнаццатая: Аб тым, як Нурадын узяў у палон Кадырберды.

Песня васемнаццатая: Аб тым, як малады султан Кадыберды сабраў войска, пайшоў на Ідэгея, і аб тым, як Ідэгей загінуў у гэтай бітве.

***

# УСПАМІНАЕМ З ПАВАГАЙ І ЎДЗЯЧНАСЦЮ

Бываючы ў Навагрудку, Іўі і Смілавічах, у размове з татарамі кожны раз чуеш аб тым вялікім і добрым уражанні, якое пакінуў па сабе крымскататарскі фальклорны ансамбль "Крым", які выступаў з выдатным канцэртам у месцах, дзе пражывае значная колькасць беларускіх татар. Ведаючы, што там будуць выступаць артысты, прыехалі татары здалёк: з Менска, Маладзечна і іншых мясцін. Многія купілі аўдыёкасеты з запісам лепшых нумароў ансамбля.

Добра, што ў нас ёсць спіс артыстаў ансамбля, якія выступалі ў Беларусі. Складзены ён на рускай мове, а імёны і імёны па бацьку пазначаны толькі ініцыяламі, таму мы можам пакуль што надрукаваць іх толькі ў такім выглядзе: мастацкі кіраўнік — дырэктар Д.М. Бекиров, галоўны дырыжор С.Ш. Какура, галоўны балетмайстар Д.З. Османова, артысты балета М.Ф. Аблаев, С.С. Абдуразаков, Э.Ш. Бекбулатова, Э.М. Гафурава, А.Б. Кокаш, Р.Ф. Бекиров, М.Д. Кадырова; артысты аркестра: С.Л. Аблязизов, Р.С. Зиядинов, Э.Л. Кадыр-Али, Ю.А. Сейтабалаев, С. Сейтаблаев, Ю.Я. Сулейманов, Р.Д. Халилов, артысты-вакалісты: Г.М. Маметова, Ю.Ш. Какура, А.А. Максудова; артыст разгаворнага жанра Р. Маметов; касцюмер Л.М. Сейтаблаева; тэлежурналісты: Ш. Меметов і Р. Зекерьяев.

Да тых крымскіх татар, да каго дойдзе гэты нумар "Байрама": перадайце ансамблю "Крым" нашу шчырую падзяку. Спадзяёмся, што каму-небудзь з нашых татар пашчасціць купіць відэастужку з запісам выступлення артыстаў ансамбля "Крым", што нам удасца зманціраваць стужку беларускіх тележурналістаў з запісам гэтага цудоўнага відовішча, і мы будзем мець шчасце праглядаць іх яшчэ і яшчэ раз.

Салям алейкум, нашы добрыя крымскататарскія госці.

По даручэнні "Аль-Кітаба"
**Якуб Раньковіч.**

***

# ТАТАРСКАЯ СПАДЧЫНА СМАРГОНШЧЫНЫ

Спадчына кожнага народа, насяляючага наш раён, мае глыбокія, трывалыя карані, якія жывяць жыццёвым сокам магутны гістарычны ствол нашай Бацькаўшчыны. Літоўцы, рускія, палякі, яўрэі і іншыя народы ў часы сівой мінуўшчыны аселі на тэрыторыі краю, захавалі сябе як этнас, з сваёй гісторыяй, культурай, традыцыямі і побытам, знайшлі тут другую Айчыну і пакінулі вялікую колькасць помнікаў дойлідства, незабыўны народны фальклор, шматлікія старадаўнія паданні…

Такімі ж старажытнымі насельнікамі краю, якія зведалі радасць стваральнай працы і горыч разбурэнняў страшэнных войнаў, зберaглі асноўныя духоўныя і матэрыяльныя каштоўнасці, пранеслі іх праз віхуры ліхалеццяў, сталі беларускія татары.

Першыя звесткі аб з'яўленні гэтых людзей на беларускіх землях можна аднесці да пачатку XIV стагоддзя. У 1319 годзе яны прымалі ўдзел у вайне Вялікага Княства Літоўскага (тагачаснай Беларускай дзяржавы) з крыжакамі. Спакон вякоў татары славіліся сваім ваенным майстэрствам і храбрасцю, таму вялікія князі Гедымін, Кейстут, Альгерд запрашалі іх на вайсковую службу. Пасля паспяховых паходаў Вітаўта ў Крым і разгрому Залатой Арды ў 1395 годзе пачалося вялікае непрымусовае перасяленне татар на нашы землі. Выконваючы ролю абаронцаў ад крыжацкіх навал, яны шчыльным колам аселі вакол замкаў у Вільні, Троках, Медніках, Лідзе, Навагародку і Крэве.

З тых даўніх часоў вядзецца гісторыя жыцця і дзейнасці гэтага люду на Смаргончыне. Ажаніўшыся з беларускамі, яны былі надзелены зямлёй узамен на абавязак несці вайсковую службу на карысць вялікага князя і ўсёй дзяржавы.

Шматлікасць тагачаснага татарскага насельніцтва добра праглядаецца ў сучасных назвах (тапаніміцы) асобных навакольных мясцін крэўскага рэгіёну. У народнай памяці і па сённяшні дзень прылеглая да крэўскага замка вуліца ўспрымаецца як Татарская, бо такі назоў яна мела да перайменавання. Бярэ свае вытокі каля в. Цярэшкі і амаль 11 км па тэрыторыі раёна нясе свае воды рачулка Татарка.

У 1490 годзе Багдан, сын Алі Бердзея, роданачальнік роду Панарскіх, атрымаў у спадчыну вёску Панара, і ёсць падстава меркаваць, што тая частка паселішча, дзе быў закладзены панскі двор, з цягам часу стала называцца в. Татаршчынай. Утварыліся ад цюркскіх, у асноўным ад татарскіх каранёў і былі аформлены на ўзор тыпова беларускіх назвы такіх населенных пунктаў, як Ардашы, Асаны, Асманаўка, Базары, Балобаны, Гамзічы, Гайлешы, Дахны, Качаны, Касымава, Малявічы, Чаркасы і шмат іншых.

**Уладзімір Прыхач.**

***

# З ГІСТОРЫІ НАВУКОВА - ДАСЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТА УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ Ў ВІЛЬНІ

Навукова-даследчы інстытут Усходняй Еўропы быў найбольшай польскай пляцоўкай, дзе займаліся феноменам Савецкага Саюза і праблемамі Усходняй Еўропы. Дзейнічаў у Вільні ў 1930–1939 гг. З прычыны нарастаючай зацікаўленасці саветалагічнай праблематыкай і наогул Еўропай, Цэнтральнай і Усходняй, варта нагадаць гісторыю і дзейнасць Інстытута.

Ініцыятарам утварэння Інстытута быў апошні рэктар Універсітэта Стэфана Баторыя прафесар Стэфан Эрэнкройц (Ehrenkreutz). Інаўгурацыя прац наступіла 23 лютага 1930 г. Прэзэсам быў прафесар, доктар Ян Развадоўскі, дырэктарам — пасол Януш Енджэевіч, а рэдактарам выданняў — ініцыятар прадпрыемства (Эрэнкройц). Праца Інстытута адбывалася ў рамках секцый і спецыяльных рэфератаў. Дзейнічалі наступныя секцыі: гісторыка-прававая (пазней — гістарычная), літаратуры і мовазнаўства, этнаграфічна-геаграфічная і гаспадарчая. Вынікам дзейнасці гэтых секцый была публікацыя некалькіх кніг, а таксама палявыя даследаванні ў Літве, якія ажыццяўляліся пад кіраўніцтвам прафесара Cezarii Baudvin de Courtenay Ehrenkreutzowej, а таксама анкетаванне народных промыслаў пад кіраўніцтвам Станіслава Свяневіча ў Паўночна-Усходняй Польшчы. Дзейнічалі таксама наступныя спецыяльныя рэфераты: праблематыкі палітычна-гаспадарча-грамадскай балтыйскіх дзяржаў (дацэнт Станіслаў Свяневіч), палітычна-прававых адносін Расіі (дацэнт доктар Уладыслаў Вельгорскі), прысвечаны гаспадарчым адносінам Расіі (дацэнт Вітальд Сукекенніге-кі), а таксама прысвечаны адносінам меншасцяў (доктар Сэвэрын Высловук). Акрамя ўнутранай дзейнасці, Інстытут арганізоўваў цыклы лекцый для грамадскасці.

Другім кірункам дзейнасці Інстытута было вядзенне Вышэйшай школы палітычных навук, якая пачала працу адначасова з узнікненнем Інстытута. Абедзве ўстановы мелі таго самага дырэктара (з 1931 г. ім быў Уладыслаў Вельгорскі). Колам навучальных дысцыплін школа адпавядала ўстановам гэтага тыпу на Захадзе і ў Польшчы. Праграма была зацверджана Міністэрствам рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы.

Выкладанне распачалося ўжо ў сакавіку 1930 г. Памяшканні Інстытута і школы знаходзіліся ў гмаху Дзяржаўнай бібліятэкі імя Урублеўскіх (яе зборы з'яўляліся асновай бібліятэкі Інстытута). Згодна са статутам, школа мела заданне "ўкараняць навукі і ўмельства, звязаныя са станам сучасным і гісторыяй зямель і дзяржаўных фармацый, размешчаных паміж Чорным морам і Балтыкай, а таксама людзей, размешчаных на гэтай тэрыторыі". Ставіла сабе за мэту "даць навучэнцам школы асноўныя веды для самастойнага даследавання сацыялагічных з'яў у галінах: палітычнай, гаспадарчай, прававой, нарэшце агульнакультуральнай". Навучанне ў школе павінна было доўжыцца тры гады і завяршыцца дыпломнай працай і дыпломным экзаменам. Сярод асноўных дысцыплін выкладаліся правазнаўства, гаспадарчыя навукі, гістарычныя, фізіка-геаграфічныя, этнаграфічныя, сацыялагічныя. Спецыяльны аддзел складаўся з манаграфічных лекцый, прысвечаных розным аспектам Савецкага Саюза і Прыбалтыйскіх краін. Абавязковымі былі вывучэнне славянскіх і неславянскіх моў. Лекцыі чыталіся па-польску. Выкладалі галоўным чынам прафесары і габілітаваныя дацэнты з універсітэта Стэфана Баторыя, якія ў большасці былі і навуковымі супрацоўнікамі Інстытута. Колькасць студэнтаў на кожным годзе навучання не перавышала 500 чалавек. Па нацыянальнасці пераважалі палякі.

Інстытуту належалі два перыядычныя выданні. Першае, рэдагаванае Эрвінам Кошмідэнам (Koschmieden), гэта "Baltico-slavica. Biuletyn Instytutu Naukowo-Badawczego Europy Wschodniej w Wilnie" (выйшлі тры тамы: 1933, 1936, 1938 ). Ва ўступным артыкуле рэдакцыя вызначыла выданне як "справаздачны бюлетэнь у галіне археалогіі, старажытнай гісторыі, этнаграфіі і філалогіі на Прыбалтыйскай тэрыторыі, гэта значыць у літоўскім, латвійскім, эстонскім і фінскім, а таксама ў суседніх славянскіх — польскім, украінскім, беларускім і рускім — краях". Паводле планаў рэдакцыі, выданне мела быць асяродкам навук аб розных народах, якія стыкуюцца на тэрыторыях паўночных і ўсходніх каля граніц Рэчы Паспалітай, і такім чынам дачыніцца да ўмацавання навукова-культурных кантактаў паміж Польшчай і суседнімі краінамі, адмежаванымі ад яе і пераважна ад сябе "кітайскай сцяной моўных цяжкасцей і палітычных непаразуменняў".

Цікавым быў артыкул П. Савіцкага, апублікаваны ў першым томе "Balticoslavica" пад назвай "Еўраз'янізм як навуковая канцэпцыя". Пастаўлены ў загалоўку тэрмін быў ідэалагічна-палітычным напрамкам, які ўзнік на пачатку 20-х гадоў нашага стагоддзя. У яго аснове было вылучэнне Еўразіі як часткі "старога свету" паміж уласна Еўропай і Азіяй (не блытаць з кантынентам, які з'яўляецца сумай Еўропы і Азіі). Аўтар прыводзіў розныя доказы з розных галін навукі для пацвярджэння тэзіса, што "Расія з'яўляецца сама сабой кантынентам, з пункту гледжання свайго абшару і геаграфічнага характару, аднак з многіх бакоў і цэлай прасторы адначасова адрозніваючыся па геаграфічным характары ад суседніх краін". Профіль дзейнасці Інстытута адпавядаў асновам еўраз'янізму.

Другім перыядычным выданнем быў "Rocznik Wschodniej" (выйшлі два тамы: 1933 і 1934). Рэдактарам быў Стэфан Эрэнкройц. Аўтары імкнуліся да максімальнай аб'ектыўнасці сваіх тэкстаў.

Нягледзячы на аб'ектыўнасць даследаванняў Інстытута, не было поўнай згоды да яго ацэнкі. У верасні 1939 г. перапынілася дзейнасць Інстытута і школы. Галоўныя дзеячы раней ці пазней былі арыштаваны НКУС і знаходзіліся ў няволі. Уладыслаў Вельгорскі, Віктар Сукенніцкі і Станіслаў Свяневіч змаглі пазней пакінуць Савецкі Саюз і рознымі шляхамі падаліся ў эміграцыю, між іншым у Лондан, дзе працягвалі навуковую дзейнасць. Толькі Стэфан Эрэнкройц быў замардаваны ў 1945 г.

Інстытут не аднавіў сваёй дзейнасці. Засталося аднак шмат каштоўных прац, напісаных яго членамі. З 1964 г. Беластоцкае навуковае таварыства выдае перыядычнае выданне пад назвай "Acta Baltico-Slavika", па назве і праблематыцы якое мае нешта агульнае з выданнямі Інстытута. Таксама дзеючы ўжо некалькі гадоў Інстытут Сярэдне-Усходняй Еўропы ў Любліне пад кіраўніцтвам прафесара Ежы Клачоўскага з'яўляецца да пэўнай ступені наследнікам Навукова-даследчага інстытута Усходняй Еўропы ў Вільні.

**Бэата Анна Цэссак.**

***

# ГЭТА ТРЭБА ВЕДАЦЬ КОЖНАМУ АДУКАВАНАМУ ТАТАРЫНУ

**(З артыкула Валерыя Захарава, надрукаванага ў "Учительской газете" № 29, 11 жніўня 1992 г.)**

"...Всем нам с детства вдалбливалось в голову, что татаро-монгольское иго лет на 200–300 отбросило Русь в культурном развитии по сравнению с Европой. Что иго помешало правильному развитию нашей государственности, превратив Русь в деспотическую монархию азиатского типа.

Но вот мы опомнились и спросили себя: а почему же сейчас русская иконопись XIV века считается вершиной в истории мировой живописи? И почему именно с XIV века русский народ начинает создавать великое государство, 600 лет шедшее от победы к победе? Где же было иго? Отчего оно ничему этому не препятствовало?

Если применить к истории диахроническую сравнительную схему развития этносов Гумилёва, то евроцентристская концепция истории превращается в смешной обывательский анахронизм. Так, традиционное деление человечества на Восток и Запад — лишь предрассудок, искусственно порождённый западноевропейской философией истории для противопоставления романо-германского суперэтноса всему остальному миру. Российский суперэтнос — самостоятельная этническая целостность, возникшая в XIII–XIV вв., а не во время Киевской Руси. Возникшая при благодатном влиянии Золотой Орды, охранявшей зарождавшуюся Русь от имперских щупальцев пап-ской Европы. Не Русь как щит заслоняла Европу от монголов, а монгольский улус спасал молодую Русь от поглощения Европой.

Чем была Орда для Руси, прекрасно понял Александр Невский, обратившийся к Европе с мечом, а к хану — с миром и союзом. Спросят: а с кем же воевала потом Русь на Куликовом поле? Ну, разумеется, не с Ордой, если лучшие ордынские конные лучники — наиболее профессиональные воины того времени — сражались на стороне Дмитрия Донского и практически обеспечили русским победу против Мамая. Смешно? Да, смешно, если осознать, до какой степени можно было нас одурачить постоянным извращением великорусской истории. Подлинная же история не укладывается в прокрустово ложе, приготовленное ей евроцентризмом."

***

# ОТРЕЗАННАЯ ГОЛОВА КАК СИМВОЛ КУЛЬТУРЫ?

Представьте себе голову, скажем, фельдмаршала Кутузова или генерала Ермолова в кунсткамере врага. Абсурд? Возможно. Такое невероятно себе представить даже при условии военного времени России. Но как же назвать факт содержания в кунсткамере героя кавказской войны Хаджи Мурата — того самого, который вдохновил Льва Толстого на создание известного произведения? Проявлением цивилизованного отношения к поверженному врагу, голову которого выставляют в кунсткамере (Санкт-Перербург, Университетская набережная, 3), как морду какого-нибудь редкого зверя или физиономию ужасного урода?

Русская официозная историография не устаёт повторять о “благообразующем” воздействии русских на “присоединённые” народы. Монгольские и ордынские ханы владели землями и поболее, однако умели уважать сильного противника и вообще не порабощали народы в тотальном отношении.

Мне могут напомнить судьбу имама Шамиля, или последнего казанского хана Едигера, которые, капитулировав, сохранили жизнь и даже почести. Однако они были побеждены и в военном, и в моральном плане. Более того, Едигер даже принял православие и долго служил царю-победителю. Хаджи Мурат не был побеждён, он был “лишь” убит.

Возможно, именно это обстоятельство так бесило русских полководцев, перед которыми трепетала вся Европа, но не испытывали ни малейшего трепета гордые сыны Кавказа. Ладно, Бог с ней, с историей. Но почему так упорно не хотят отдать голову Хаджи Мурата его потомкам? Более того, своё упорство российские власти мотивируют... необходимостью сохранения наследия культуры (?!).

В это с трудом верится, но факт есть факт: в ответ на неоднократные просьбы председателя Союза мусульман России, депутата Госдумы РФ от Дагестана Надира Хачилаева о вызволении из кунсткамеры головы Хаджи Мурата Минис-

терство культуры (!) РФ ответило, что "это неотторжимое наследие культуры народов России" (!!!).

Надир Хачилаев справедливо задаётся вопросом: "Если Минкульт считает, что голова человека — наследие культуры, то о культуре какого народа идёт речь?" (Бюллетень реферативно-аналитической информации РАН РФ "Россия и мусульманский мир", № 8 (62), Москва, 1997, с. 61 со ссылкой на "Эксперт" от 2 июня 1997 г., с. 19).

Если следовать этой, мягко говоря, странной логике, следовало бы "во имя сохранения культуры" воздвигнуть на границах стран частоколы из голов непримиримых врагов? Кто знает, что случилось бы с головой Дудаева, попади его труп в руки убийцы? В каком веке мы живём, господа? Когда же в России научатся достойно хоронить не только врагов, но даже больные мозги и телесную оболочку собственного кумира, ещё недавно боготворимого?

Вспомним одну из любимых горских песен Хаджи Мурата в пересказе Льва Толстого:

"Горяча ты, пуля, и несёшь ты смерть, но не ты ли была моей верной рабой? Земля чёрная, ты покроешь меня, но не я ли тебя конём топтал? Холодна ты, смерть, но я был твоим господином. Моё тело возьмёт земля, но мою душу примет небо".

Увы, не по песне и не по обычаям погребён Хаджи Мурат, и душе его, обезглавленного, видимо, ещё долго суждено маяться. И ещё долго будут проклятьем звучать слова простой русской женщины Марьи Дмитриевны, одной из персонажей повести "Хаджи Мурат":

"Какая война? Живорезы, вот и всё. Мёртвое тело земле предать надо, а они зубоскалят. Живорезы, право..."

**Фаяз Фаизов.**

***

# НАРАДЗІЎСЯ Ў БАШКОРТАСТАНЕ, ПАВАГУ І ПАШАНУ ЗАСЛУЖЫЎ НА БЕЛАРУСІ

10 чэрвеня споўніўся год, як няма з намі нашага бацькі — Ахмета Сафа Фатыхавіча Фатыхава. Усё сваё пасляваеннае жыццё ён пражыў у Крупскім раёне. Як з далёкай Башкірыі апынуўся тут ён? Нарадзіў тут траіх дзяцей, дачакаўся пяцёра ўнукаў (аднаго ўжо няма). Вельмі любіў ён свайго старэйшага ўнука Васілька. Не вытрымала сэрца старога…

Вялікую Айчынную вайну сустрэў Ахмет Фатыхаў ужо прызваны ў Чырвоную Армію. Усю вайну і нават крыху больш — з мая 1941-га па май 1945-га — праслужыў на 2-м Ленінградскім фронце, у 14-й паветранай арміі. Не маючы вялікіх чыноў, ідучы разам з перадавымі нашымі часцямі, рамантаваў тэхніку, робячы неверагоднае, збіраючы пакалечаныя машыны — нашы і трафейныя. Бывала, з трох рабілі адну і за кароткі тэрмін адпраўлялі зноў, каб біць ворага, набліжаць доўгачаканую перамогу.

Успамінаў стары воін, як трапілі ў акружэнне каля Ладагі. 12 сутак нічога не елі, з 27 чалавек выжылі 7, і тых арыштавалі супрацоўнікі НКУС, бо думалі, што гэтыя сямёра здрадзілі, невядома дзе блукалі. Але калі ўпэўніўшыся, што з імі здарылася, адправілі ўсіх на папраўку ў Балагое. Быў гэта 1942 г., цяжкі для ўсіх нас. Сярод тых сямі быў і малады Ахмет Сафа. Выжыў. Дапамог яму, відаць, Аллаг.

Пасля вайны перавялі Фатыхава ў 1-ю паветраную армію. Тут ён і сустрэў чарнявую Вольгу Гвоздзік, што з вёскі Ігрушка Крупскага раёна. Толькі што вярнулася яна на радзіму з палону. Зусім юнай дзяўчынай пагналі яе з моладдзю ў далёкую Нямеччыну. Там цудам яна ўцалела, і вызвалілі яе войскі 1-га Украінскага фронту. Ахмет і Вольга пакахалі адзін аднаго. Так і застаўся служыць далей у Беларусі хлопец з Башкірыі.

У 1950-я дэмабілізаваўся, і паколькі быў спецыялістам па тэхніцы (а пасля вайны іх было вельмі мала), то пачаў дапамагаць раёнам рамантаваць сельскагаспадарчую тэхніку. Падрыхтаваў Ахмет Фатыхавіч шмат вучняў, перадаў ім свой

З чагатайскай графікі літоўскія татары запазычылі знакі, якія адзначаюць гукі: -п (па, знак, які пабудаваны на аснове арабскай літары ба ( پ ), але з той розніцай, што ў яго не ад-на, а тры кропкі ўнізе), -ч (чым, знак па ўзору джым ( چ ), але з трыма кропкамі ўнізе замест адной), насавыя -о, -е (галосны -о, -і або -а, -е з наступным сагыр нун'ем). Ужываемы імі знак для абазначэння гука -ж ( ژ ) — арабскага -зі з трыма кропкамі ўверсе выступае таксама ў арабскай і асманскай графіцы (пры транскрыбаванні іншамоўных слоў). Для абазначэння мяккіх -ц', -дз', -з', -л', -н' і цвёрдых -ц, -дз, -з, -л, -н служаць адны і тыя ж знакі. Гук -с' перадаюць пры дапамозе арабскага тса (س). У сувязі з тым, што транскрыбаванне насавых гукаў даволі складаная справа, іх часта перадаюць як -о, -е. Для абазначэння галосных -а, -е, -ы, -і, -о ў графіцы літоўскіх татар выкарыстоўваюцца тыя ж знакі, што і ў арабска-турэцкім алфавіце.

Назвы асобных літар гэтага алфавіта татары вымаўляюць па-турэцку, але з характэрным змякчэннем, тыповым для беларускай мовы: аліф (эліф), бэ (бэй), рэ (рэй), шэ (шэй), се, джым, чым, хы, ха, зал, рэ, зе, сін, шым, сад, дад, шы, зы, айн, гайн, фэ, каф, кеф, лям, мім, нюнь, хэ, воў, е. Дыякрытычныя знакі носяць наступныя назвы: усцюн (асм. ustun, ар. fatha, знак для галоснай а або ä), утрунь (асм. otru, араб. damma, знак для галосных u, ü, o, ö), асрэ, эсрэ (асм. asra, араб. kesra, знак для галосных і, ы). Назвы для арфаграфічных значкоў: тэнвін (араб. tenuin, знак для падваення кароткіх галосных), джэзім (араб. dzedm) або секюнь (араб. cykyn, асм. sukun, знак, які паказвае на тое, што зычны гук трэба вымаўляць самастойна, без наступнага галоснага), тэшдзід, тэшдыд, тэшчыт, тэшчыц (араб. taszdid, знак падваення зычнага гука), васаля, васля (араб. uasala, знак, які ставяць у некаторых словах над пачатковым аліфам, каб паказаць, што аліф не трэба вымаўляць), мэд, мед (араб. uadda, асм. uad, знак, які ўказвае даўжыню галоснай -а).

Наогул, як адзначае С. Крычынскі, "арабская графіка для літоўскага татарына з'яўляецца не толькі адным з спосабаў абазначэння гукаў яго мовы ў кнігах, дакументах, пісьмах і на

надмагільных плітах. Гэта свяшчэннае пісьмо Кур'ана, кнігі яго веры, і таму да самага маленькага кавалачка паперы, напісанага арабскімі літарамі, ён ставіцца з найвялікшай павагай. Вера ў святасць і цудадзейную сілу пісьма выражаецца ў магічных дзеяннях татарскіх ведзьмароў і чараўнікоў".

Такім чынам, аналіз гістарычных і пісьмовых крыніц, і перш за ўсё гістарычнае сачыненне "Рысале-і-татар-і-лех" (1558), паказвае, што, верагодна, к канцу XVI ст. камунікатыўная функцыя гутарковай роднай мовы літоўскіх татараў вычэрпваецца, і на змену ёй прыходзяць беларуская і польская. Становішча гэта захавалася да сённяшняга часу. На долю актыўнага валодання роднай цюркскай мовай прыпадае прыкладна 200 гадоў. І роўна 400, як яна забытая. Забытая, але ці знікла бясследна? Не, не знікла, нішто не прападае, не пакінуўшы сваіх слядоў. Перш за ўсё трэба нагадаць пра існаваўшыя ў літоўскіх татараў арабапісьмовыя старыя цюркскія літаратурныя мовы XVI–XVIII стст. (харэзмска-цюркская, чагатайская і стараасманская), якія абслугоўвалі пісьмовую сферу зносін літоўскіх татараў. Акрамя моў пісьмовых зносін, літоўскія татары мелі, безумоўна, мову вусных зносін, якая была для іх роднай. Польскі вучоны прафесар А. Дубінскі, спасылаючыся на гістарычныя даныя, даводзіць, што "мова літоўскіх татараў, у асноўнай сваей масе перасяленцаў з Залатой Арды, належала да кыпчацкай групы цюркскіх моў". Гэта сцвярджэнне можна лічыць справядлівым. Але ці ёсць доказы гэтага? Так, яны існуюць, і шлях да іх указаны А. Мухлінскім. Спасылаючыся на больш ранняе ўпамінанне, А. Мухлінскі сцвярджае, што ў той час, калі тэрыторыя Падоліі была вернута туркамі, — тады шмат татарскіх сем'яў, спрадвеку жыўшых на гэтых землях, пакінулі Турцыю. З гэтых выхадцаў утварыліся там тры калоніі, якія і сёння адрозніваюцца ад турэцкіх тыпам і касцюмам і называюцца татарскімі: адна на раўніне Дабруджа ў Балгарыі, другая — у наваколлях Брусы, трэцяя — над ракой Кызыл-Ырмак (Halis) у Малой Азіі; колькасць татар у гэтых трох калоніях налічвала па афіцыйнай статыстыцы 1853 г. каля 36 тыс. душ. Тут, у гэтым асяродку, як лічыць маскоўскі прафесар Э.Р. Ценішаў, "можна думаць без ваганняў, і захавалася вусная

мова польска-літоўска-беларускіх татараў". Мовай татараў Дабруджы, якія адносяцца цяпер да Рэспублікі Румынія, займаліся А. Заянчкоўскі, В. Заянчкоўскі, Х. Янкоўскі, Е. Мандокі, Э. Махмут, В. Дрымба, Э. Ценішаў. Найбольш поўныя на сённяшні дзень сведчанні ёй змешчаны ў кнізе В. Заянчкоўскага "Мова і фальклор татараў з румынскай Дабруджы" (Вроцлаў, 1975; гісторыя вывучэння мовы: с. 8–9; граматыка: с. 10–25; тэксты: с. 26–98; слоўнік: с. 189–197). Як сцвярджае прафесар Э.Р. Ценішаў, гэтага матэрыялу зусім дастаткова для яснага ўяўлення аб ладзе мовы дабруджынскіх татараў, яе слоўнікавым складзе, дыялектычным дзяленні і сувязі з іншымі мовамі. На яго думку, мова татараў Дабруджы, бясспрэчна, належыць да кыпчацкай групы цюркскіх моў. Гэта татарская мова, але нагайскага тыпу з прыкметнай дамешкай турэцкіх (альбо крымскататарскіх) элементаў. Параўнанне з дыялектамі нагайскай мовы, праведзенае Э. Ценішавым, дазволіла яму зрабіць вывад, што мова цюркскага насельніцтва Дабруджы блізка стаіць да акнагайскага дыялекту, але па дадатковых прыкметах (крымска-турэцкіх элементаў) яна бліжэй знаходзіцца да крымсканагайскага дыялекту, па тэрміналогіі Ю.І. Каракаева. Гістарычныя ўмовы фарміравання мовы татараў Дабруджы і паўночнага дыялекту крымскататарскай мовы ў многім былі блізкімі, што і спарадзіла падобныя рысы гэтых моў. В. Дрымба, які ўважліва даследаваў мову татар Дабруджы, прыйшоў да высновы, што яна складаецца з трох груп тэрытарыяльных дыялектаў (паўночная, паўднёвая і паўднёва-заходняя), наўмысна пазбягаючы ўжываць тэрмін "дыялект" у адносінах да гаворкі татараў усёй Дабруджы, паказваючы пры гэтым дэфініцыі Ю. Немета "ўсходнерумелійская гаворка" або Т. Кавальскага "турэцкі дыялект Дыліёрмана" (які складае з гагаузскай мовай "дунайскі дыялект"). В. Дрымба, не пагаджаючыся з існуючымі думкамі, лічыць, што пытанне канчаткова будзе вырашана толькі пасля таго, як будуць складзены лінгвістычныя атласы Балгарыі і Турцыі.

Але, як справядліва даводзіць прафесар Э. Ценішаў, "як бы сёння не называлі мову татараў Дабруджы: гаворка, дыялект, жаргон, — у сацыяльным плане ні адзін з гэтых тэрмінаў не адлюстроўвае сапраўднага становішча. І лінгвістычна, і са-

цыяльна цюркскае насельніцтва Дабруджы валодае мовай. Гістарычна яна была ў становішчы дыялекту ў адносінах да ўсёй мовы літоўскіх татар XV–XVI стст., г.зн. пакуль яна існавала ў вуснах народа". Э. Ценішаў не пагаджаецца з В. Садурам, які сцвярджае, што ў літоўскіх татар ніколі не было моналінгвізму. "Полілінгвізм, — лічыць Э. Ценішаў, — наступіў пасля XVI ст. Калі гэта мова была страчана на сваёй радзіме, то яе носьбіты, якія перасяляліся ў Дабруджу, Брусу і Кызыл-Ырмак, апынуліся ў становішчы адзіных носьбітаў-спадкаемцаў роднай мовы. Сёння "ізаляваны дыялект" у Дабруджы вырас да статуса самастойнай мовы. Дыялекты ж Брусы і Кызыл-Ырмака, верагодна, падпалі пад моцны турэцкі ўплыў. Усё гэта наводзіць на думку, што менавіта мова татараў Дабруджы можа быць засвоена літоўскімі татарамі. Перасаджаная на старую глебу, яна паступова набудзе мясцовы каларыт і наблізіцца да страчанага становішча, але, верагодна, яго цалкам не дасягаючы, таму што мясцовыя ўмовы за чатыры сотні гадоў таксама моцна змяніліся. Тым не менш, гэты працэс немагчыма параўнаць з сухім эксперыментам, хутчэй за ўсё гэта вяртанне дамоў даўно пайшоўшага, амаль прапаўшага дарагога сына".

Прыклад вяртання сваёй мовы дае нешматлікі народ Латвіі — лівы. Зусім мала засталося тых ліваў, якія валодаюць роднай мовай. У некаторых школах Латвійскай Рэспублікі ўведзена выкладанне роднай мовы лівам, пачынаючы з першых класаў.

Ужо сёння, лічыць Э. Ценішаў, існуе дастаткова матэрыялаў, каб скласці буквары і падручнікі роднай мовы для дзяцей польска-літоўска-беларускіх татараў. Для дарослых можна адкрыць курсы, дзе б на першым часе выкладалі настаўнікі-татары Дабруджы, пакуль не будуць падрыхтаваны свае. У далейшым неабходны вялікія і паўнакроўныя граматыкі і слоўнікі. Родную мову можна вярнуць і пры гарачым жаданні зрабіць гэта хутка!

**І. Канапацкі,**
кандыдат гістарычных навук,
член-карэспандэнт Міжнароднай Акадэміі
вывучэння нацыянальных меншасцей.

***

# САРМАЦКІ ПАРТРЭТ БЕЛАРУСКАГА ТАНЦА

***Карункавая бель "замятае" сцэну. Залацістыя плеценыя гарсэцікі на артыстках высвечваюцца з-пад празрыстых карацеек-палярынаў, што імітуюць танюткую, амаль няўлоўную тканіну з ільну, якую ўмелі выраблець у Старажытным Егіпце і праз 20 столак якой было відаць жаночае цела. Доўгія, падбітыя багатым футрам кунтушы ўказваюць на высакароднасць, на прыналежнасць да шляхецкага саслоўя. Касцюм, які "падае" вобраз танца ці песні з першых жа акордаў музыкі, — гэта ад Айшы Александровіч, якая напярэдадні Новага года ветліва пагадзілася завітаць у рэдакцыю і падзяліцца ўражаннямі ад года мінулага. Адметнага для мастачкі: яна адзначыла свой залаты юбілей, 20-годдзе працы ў Політэхнічнай акадэміі, зрабіла асабістую выставу. Ёсць імя — званні ж і рэгаліі спазняюцца, ёсць цэлы раскапаны пласт "мастацкага радовішча" і работа, якая спусташае дазвання (халтурыць не можа), — афіцыйнае ж прызнанне ледзь-ледзь узгараецца на жыццёвым небасхіле. Як у паэта: "Зняверу дзядоўе і красак сузор'е падаюць знічкамі ў студню яе душы".***

— Сапраўды год быў адметны. Яшчэ і таму, што культурна-асветнае згуртаванне беларускіх татараў "Аль-Кітаб", да якога належу і я, святкавала 600-годдзе пасялення на гэтай зямлі прыхільнікаў хана Тахтамыша, якіх прыняў князь Вітаўт і якія служылі сваёй новай бацькаўшчыне верай і праўдай. Майму далёкаму продку былі дараваны землі на княжанне ў Ашмянскім павеце. Род Александровічаў меў свой герб з 1586 года. Без усведамлення сваіх каранёў нельга да канца спазнаць сябе. Захапленне гісторыяй, без ведання якой немагчыма ўвасабляць нацыянальны касцюм у сцэнічнам вобразе, перарасло ў даследаванне такой з'явы ў жывапісе, як беларускі сармацкі партрэт. Вынік пошуку — эсэ, выдадзенае таксама ў гэтым годзе. Сарматы — носьбіты ўсходняй культуры, народнасць, якая асімілявалася з іншымі, зрабіўшы пэўны ўплыў на нашу культуру. Для гэтага віду партрэтаў XVI-XVIII стст., як правіла, знатных вяльможаў, уласцівыя пышнасць убрання, па баках —

фамільныя гербы, сімвалы, падобныя на татарскую тамгу. Чаму? Мне хацелася разгадаць гэты гістарычны след.

Я так захапілася, што да чарговай пастаноўкі Дзяржаўнага ансамбля танца хацелася стварыць штосьці пышнае, багата аздобленае, як на старажытных партрэтах. Мастацкі кіраўнік калектыву Валянцын Дудкевіч не прымаў ідэй, навеяных зусім іншай атмасферай мінулага. Тут жа — матыў развітання з Радзімай, матыў цудоўнага паланеза Агінскага, матыў паражэння рамантычнай ідэі паўстання Касцюшкі.

***— Дудкевіч вельмі патрабавальны "заказчык"?***

— У нас адразу ж з'явілася дамоўленасць, што я працую толькі на яго калектыў. І можна сказаць, у нас хутчэй творчая закаханасць, спадзяюся, узаемная. Калі-нікалі проста на рэпетыцыі ён дае мне чысты аркуш паперы, прапануючы папрацаваць. Бывае, мой эскіз нараджае яго вобраз. Я ўдзячная лёсу, што маю творчы прастор, працую на ўзроўні сааўтарства. Гэта чалавек, які сілкуе мяне энергетычна, акрыляе маю фантазію, дзякуючы яму я знайшла ўласны напрамак у творчасці.

***— Гісторыя мастацтваў ёсць гісторыя шматкратнага іх адраджэння. Мне здаецца, зараз гэта адбываецца з народнымі рамёствамі. Вы звярнуліся да нацыянальнага касцюма. Праўда, атрымліваецца не адзін да аднаго, а з аўтарскімі варыяцыямі.***

— Маё палатно — сцэна. Не важна, што мундзір жаўнераў часоў Касцюшкі не таго колеру. Паверце, я перарыла стосы кніжак пра паўстанне. Усё прачытанае прапусціла праз свой тэмперамент, у эскізы ўнесла пэўны змест, без якога форма — як званок, які не зазвоніць.

Яшчэ з самога пачатку супрацоўніцтва паставіла перад сабой мэту — кожны створаны для ансамбля касцюм павінен быць творам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Таго ж патрабую і ад майстрых, якія шыюць уборы. Часам яны нават злуюцца: "Чаго вы носіцеся з адною кашуляю?!"

***— Што Вам дапамагае вырашаць своеасаблівую звышзадачу?***

— Перш за ўсё — мая інтуіцыя мастака. Вось папрасілі выканаць эскізы касцюмаў для Волжскага народнага хору. Атрымалася трапна, недзе — гратэскава. Увогуле, самарцам

спадабалася. Трэба заўсёды больш верыць сабе, удасканальваць душу і пачуцці, тады часцей будзе сыходзіць азарэнне.

Назаўсёды запомніла сон, што ўбачыла пасля смерці матулі, якая была чалавекам неабсяжнай душы. Яна сялянскай мудрасцю адчула дарогу, наканаваную дачцэ. Пасля яе пахавання я ўсвядоміла, што мала аддзячыла ёй пры жыцці. Пакутліва перажывала і ў думках прасіла прабачэння. У сне прыйшла яна да мяне, лагодная і спакойная, і на адчайнае пытанне: "Што мне рабіць, мама?" — выразна пачула яе голас, нібы благаслаўляючы: "А ты ідзі".

***— Магчыма, гэта і ёсць спрадвечны імператыў лёсу: якім бы цярністым ні быў твой шлях, яго трэба адолець... Што б Вы пажадалі чытачам?***

— Аптымізму і веры ў свае сілы, якія дадзены нам Усявышнім на добрыя справы, святла і духоўнасці.

***На заканчэнне хацелася б прывесці словы Нэлі Шчаснай з кнігі водгукаў аб персанальнай выставе Айшы Александровіч: "Я назаўсёды стала прыхільніцай гэтага каскада радасці, святла, тэмпераменту, бясконцай разнастайнасці выдумак, а Ваша персанальная выстава паказала, што нараджэнне вобраза праходзіць праз церні, але ў выніку здабываецца тое, што адназначна называецца творам мастацтва". Сапраўды, лепш не скажаш.***

**Алена Клімовіч**
(З газеты "Мінская праўда",
31 снежня 1997 г.)

***

# ЛЮДЗІ, ЯК КОЛЕРЫ

Мастак Айша Александровіч — вельмі цікавы чалавек, сапраўдная творчая натура, адметная не толькі сваёй працай, што цалкам натуральна, але і неардынарным светапоглядам. Заўважаць прыгажосць нават у паўсядзённых, будзённых з'явах — для яе вельмі характэрна. Таксама, як і цікавіцца глыбіннымі праявамі чалавечай душы. Яна любіць жыццё і людзей, можа таму і творчасць яе такая яркая, іскрыстая, па-сапраўднаму жывая. Айша Александровіч — выдатны мастак па сцэнічным касцюме, ужо не першы год працуе з Дзяржаўным ансамблем танца Валянціна Дудкевіча, дзе яе талент раскрыўся найбольш ярка і поўна. Мы з задавальненнем знаёмім чытачоў з мастачкай і даём ёй слова.

**Пра тое, як усё пачыналася**

— Мой першы асэнсаваны малюнак — малюнак балерыны. Убачыла яе ў пачцы, у класічнай позе, у каляндарыку — больш не было дзе, бо нарадзілася і вырасла ў невялікім беларускім гарадку Узда: там не тое што тэатра — мастацкага гуртка не было.

Балярына мяне літаральна зачаравала. Здарылася так, што бацькі аднымі з першых на нашай вуліцы купілі тэлевізар, вось тады і пачаўся ўвесь гэты, як сказала маці, "кардэбалет". Смешна, але я лічыла "кардэбалет" словам, спецыяльна ёю прыдуманым, каб выказаць усё неадабрэнне, якое магла адчуваць жанчына-мусульманка да напаўраспранутых танцоўшчыц.

А ўва мне ўвесь час жыла цікавасць да сцэны. Я ў дзяцінстве і юнацтве нават крыху пела і танцавала. І ўборы мы самі майстравалі. І па сёння захоўваю падзячны ліст за лепшы касцюм на школьным балі-маскарадзе. Мне здаецца, нейкая вышэйшая сіла вяла мяне па жыцці да маёй прафесіі. І хаця бацькі былі вельмі простымі, недзе ў радні траплялiся людзі мастацтва, больш, праўда, музыканты. Дзякуй, сем'і ва ўсіх былі вялікімі. І калі я паступала ў мастацкае вучылішча, першае, куды пайшла, — оперны тэатр: памятаю, балет называўся "Блакітны Дунай".

Пасля вучылішча год працавала ў школе настаўніцай, а потым зноў вучоба — у мастацкім інстытуце на прыкладным аддзяленні. У кватэры і зараз на сцяне вісіць мой дыплом, праўда, не ў рамачцы, — дыван пад назвай "Папараць-кветка".

Аднак, калі я яго рыхтавала, асабліва моцнага захаплення фальклорам, народнай творчасцю яшчэ не было, хаця наш выкладчык Міхась Раманюк браў нас у фальклорныя паездкі, дзе рабіліся адпаведныя замалёўкі. Тэму дыпломнай выбрала хутчэй інтуітыўна. Вельмі ўжо вобразна ўявілася мне цёмная ноч і кветка, якая гарыць агеньчыкамі сярод прыгожых, амаль ажурных сілуэтаў лістоў папараці... Эскіз доўга не выходзіў такім, як мне хацелася. І нават калі ўжо прыехала на камбінат у Віцебску выконваць саму работу, не адчувала задавальнення. Здавалася, і малюнак сам па сабе нядрэнны, але не атрымліваўся задуманы каларыт... Дырэктар камбіната ўвогуле быў супраць мяне: навошта яму лішнія клопаты са студэнткай? Дыван трэба ж было запусціць у вытворчасць, а потым адправіць у гандаль. Карацей, не падабалася яму ўсё.

І вось апошняя ноч — сядзела ўсю напралёт і спаць не хацела, нібыта нехта ці нешта трымала мяне... Не ведаю, колькі пластоў фарбаў перапэцкала, але перад ранкам гляджу, нешта стала вымалёўвацца. Калі паказала вынікі "бяссонніцы" свайму мастацкаму кіраўніку, убачыла — атрымалася! Пазней той дыванок пабываў на некалькіх выставах і меў нядрэнныя водгукі.

**Пра работу**

Валянцін Дудкевіч заўважыў мяне пасля майго ўдзелу ў падрыхтоўцы святочнага канцэрта да 40-годдзя перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Запрасіў да сябе ў ансамбль, за што я яму на ўсё жыццё ўдзячная. Дудкевіч для мяне сапраўдны прыклад, як трэба адносіцца да справы і паводзіць сябе з людзьмі. Ён валодае надзвычайным адчуваннем такту, меры, далікатнасці. І хаця Дудкевіч вельмі раўніва ставіцца да таго, калі я працую з кім-небудзь яшчэ (я, дарэчы, імкнуся гэтага пазбягаць), мне прыйшлося супрацоўнічаць з іншымі цікавымі калектывамі, напрыклад, ансамблем "Сябры". Гэта адбылося пад час свята славянскага пісьменства. Касцюмы рабіліся літаральна для аднаго нумара — песні пра Янку Купалу. Мелодыя мяне прос-

та зачаравала, і я стала шукаць адпаведны вобраз. Хацелася пракласці нейкі масточак да Скарыны. Урэшце, спынілася на іканапісных, царкоўных матывах. Увяла элементы "шляхетнасці", і ўсё на аснове сучасных канструктыўных форм. Зрабілі касцюмы за тыдзень. Прыйшлося нават дапамагаць закройшчыкам. Але, лічу, атрымалася няблага.

Акрамя Дзяржаўнага ансамбля танца, у мяне былі работы для камернага аркестра народных інструментаў радыё і тэлебачання — музыкантаў і асобна салістаў. Напрыклад, для Тамары Пячынскай. Калі памятаеце, яна пела: "Чорна галка, чорна галка..." Вось у мяне і выйшаў крыху стылізаваны ўбор... А для аркестра... Тады якраз пайшла такая плынь — шляхетнасць. Я гэта і выкарыстала.

**Пра стаўленне да народнага касцюма**

Мне здаецца, ужо надакучыла наша вечная "мужыцкасць", сялянскасць ва ўсім і заўсёды. Між іншым, вопратка вельмі моцна ўздзейнічае на псіхіку чалавека, стварае эмацыянальны настрой. Калі ўвесь час хадзіць выключна ў лапцях, то і сапраўды зробішся прыгнечаным і прыніжаным. Доўгі час гэта было нават палітыкай — паказаць чалавека занадта простым — забітым, шэрым, ніверліраваным. Згадаем рускі касцюм. Колькі дзесяцігоддзяў артысты выходзілі на сцэну ў кароценькіх кашульках, лапаточках і картузіках з прышпіленай кветачкай — усе аднолькавыя. Хіба ж толькі такі сапраўдны рускі касцюм, які на самой справе — з'ява багацейшая і шматпланавая?! Тое ж і з беларускім. Вельмі цікавай была вопратка шляхты, дзе адчуваліся ўсходнія матывы і традыцыі — кантушы, багатыя тканіны, парча... Ды што далёка хадзіць. Вазьміце тыя ж слуцкія паясы. Я пра гэта нават артыкул напісала. Калі ж заўсёды выглядаць беднымі і няшчаснымі, то і жыць так будзеш. Я як мастак лічу: трэба бачыць лепшае і тым самым узнімаць чалавека. І без мастакоўскай фантазіі тут не абысціся.

Такая ўжо, мабыць, мая душа — не магу спыніцца на аўтэнтыцы, проста яе капіраваць. Нецікава. Гэта ўжо ёсць, гэта ўжо само па сабе твор мастацтва. Тыя людзі, што са мной працуюць, ведаюць мае погляды. Прынамсі, Валянцін Дудкевіч, кіраўнік ансамбля танца, мяне разумее. Нашы творчыя пады-

ходы ў нечым падобныя. Яго харэаграфічныя творы таксама нельга назваць чыста аўтэнтычнымі, яны больш класічныя, нават акадэмічныя, але аснова — так, народны танец.

### Пра ўзаемаадносіны з калегамі

Калі яшчэ толькі пачынала працаваць, было шмат спрэчак, асабліва на разнастайных мастацкіх саветах (зараз іх, дзякуй Богу, няма). Засядалі там нярэдка непрафесіяналы, але пачыналі выдаваць табе парады і рэкамендацыі. А яшчэ намёкі на тое, што я не беларуска, а татарка, і касцюмы ў мяне — літоўскія, татарскія, а не беларускія. Чаго толькі не наслухалася. Хаця, урэшце, маё перакананне: усе мы ад адной прамаці, і трэба не раз'ядноўвацца, а аб'ядноўвацца і, як розныя колеры на адной палітры, складаць агульную гармонію.

### Пра сям'ю

Сям'я мая невялікая. Замуж выйшла яшчэ студэнткай, таксама за мастака. У 1971-м нарадзілася дачка Галія. Мы не мелі на той час сталага жылля, таму некалькі год яна выхоўвалася ва Уздзе ў бабулі, за што зараз, здараецца, мне і выгаворвае.

Дачка ў дзяцінстве таксама вельмі захаплялася творчасцю, балет любіла, дарэчы, як і муж, у якога ў майстэрні стаяла вялікае палатно, падрыхтаванае "для балета".

У дзяцінстве, памятаю, сядзела на печцы і марыла: як добра было б мець піяніна. Атрымалася, што толькі ўнука аддалі вучыцца музыцы, але я сапраўды шчаслівая: няхай так, але мара рэалізуецца. Галія засталася жыць ва Уздзе, хаця скончыла тэатральна-мастацкі інстытут, яна — мастацтвазнаўца. На жаль, пакуль работы па спецыяльнасці не знайшла, вядзе заняткі аэробікі, бо скончыла таксама і культасветвучылішча — па танцах. Праца цяжкая і ненадоўга — пакуль маладая.

Муж вельмі хацеў, каб я, акрамя творчасці, яшчэ і выкладала. І калі здарылася няшчасце — ён вельмі рана памёр, — я занесла свае дакументы на архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута, дзе вучу студэнтаў малюнку і сёння. Мне вельмі падабаецца праца з маладымі, я іх люблю, чэрпаю ад іх моцную станоўчую энергетыку.

Пасля нечаканай смерці мужа апынулася ў вельмі цяжкай дэпрэсіі, амаль не працавала, хаця творчасць для мяне — усё,

сэнс існавання. Аднак трэба было неяк вяртацца да жыцця. Пачала выконваць асобныя заказы. Запомнілася прапанова аформіць кнігу Янкі Хвораста "Зборнік беларускіх народных танцаў". Работа зацікавіла, я зрабіла замалёўкі, у якіх імкнулася адлюстраваць касцюмы "ў руху", як апісваў танец Янка Хворост (дарэчы, так раблю цяпер заўсёды). Аўтару спадабалася. Падрыхтавала эскізы для двух тамоў. Матэрыял збірала вельмі скрупулёзна, шмат працавала ў фондах Акадэміі навук. Але памёр Янка Хворост, выданне кнігі адклалі. Пазней яна выйшла, але ўжо без ілюстрацый. І што вельмі крыўдна: ілюстрацыі ўвогуле згубіліся. На мае прэтэнзіі атрымала адказ: "Мы вам грошы заплацілі..." Захаваліся толькі некаторыя чарнавікі. Пасля таго прыйшла да высновы: ніхто, акрамя самога аўтара, не захавае яго работы лепей. Таму амаль усе малюнкі цяпер трымаю дома.

### Пра Бога і рэлігію

У жыцці мне давялося спазнаць нямала. Былі не толькі творчае натхненне і перамогі. Хапала страт, ды і памылак нарабіла нямала. Але ўрэшце рэшт зразумела: без веры, без духоўнасці жыць чалавеку нельга. Я ўжо казала, што паходжу з беларускіх татар, шасцісотгоддзе асадніцтва якіх нядаўна святкавалася. Я не лічу сябе рэлігійнай фанаткай, я чалавек увогуле вельмі зямны, але мяне цікавіць мусульманская рэлігія, чым магу, дапамагаю ў рабоце татарскай абшчыне ў Мінску. З задавальненнем вывучаю Каран. Некаторыя людзі лічаць мусульманскую рэлігію жорсткай. Але яны памыляюцца. Бог адзіны і вучыць усіх людзей аднаму і таму ж — дабру, цярплівасці, працавітасці. Іншая справа, як самі людзі трактуюць і выконваюць Божыя запаведзі.

### Пра будучыя планы

Працаваць, працаваць, працаваць. У гэтым маё жыццё, сэнс існавання на зямлі.

(З газеты "Голас Радзімы", № 12).

***

# ПОШТА КВАРТАЛЬНІКА



Дорогой Ибрагим Борисович!

Большое спасибо за Ваше участие и готовность оказать помощь моему бедному сыну в возможном издании его книги. Стыдно, конечно, — способный журналист и поэт продаёт газеты, чтобы добыть что-то на хлеб для семьи. Жена его — старший преподаватель университета с окладом 1,8 млн., а у них двое детей.

Прочитал Ваше письмо, вспомнил притчу о том, что у еврейского ада стоит охрана, а у татарского ада, что рядом, охраны нет. Объяснение: если хоть один еврей вылезет из ада, то он вытащит остальных. Задача охраны — не выпускать его. Если же хоть один татарин попытается вылезти из ада, то не дадут ему вылезти остальные обитатели, стащат его обратно за ноги в ад. Поэтому здесь охрана не нужна. Этим сказано об отсутствии взаимовыручки, сплочённости у наших соплеменников. Если бы было единство, то не потеряли бы свою государственность поодиночке Казанское, Астраханское, Ногайское, Крымское ханства, тем более в период СССР мы обрусели. Впрочем, завидно, как русские защищают своих единоверцев — сербов, болгар, греков и т.д.

Но как бы то ни было, татары ещё сохранились, и наша задача — как только можно способствовать возрождению культуры, традиций народа. После революции 1905 г. поэт писал: "Уян татар" ("Проснись, татар"), — хотя тогда обрусение, межнациональные браки ещё не приняли столь массового характера, как теперь. В 1994 г. 3700 женщин-татарок родили от смешанных браков. Ведь уже было дошло до того в годы Советской власти, что, приезжая в Казань, не слышал там татарской речи. В 1945 г. (зима на 1946 г.) я встретил в числе бывших военнопленных человека, скрывающего, что он татарин. Только мне, молодому солдату, наедине сказал об этом. Ходайга шокер (хвала Аллаху), пришли времена, когда почти повсеместно открываются татарские школы и детские сады, строятся

мечети, медресе. В России до Октябрьской революции было 7000 мечетей, до перестройки — 94, сейчас — 1400. Бурно развивается татарская культура в Набережных Челнах, недаром говорят татары: "Казань — столица Татарстана, Набережные Челны — столица татар". В Набережных Челнах кроме татарских школ (их 30%) во всех школах преподаётся татарский язык, с будущего года вводят экзамен по нему.

Вот некоторые примеры из нынешней эпохи. В 1996 г. из Самары 30 человек побывали в хадже. В аэропорту их встретил зам. губернатора области Хабибулла Бабаев, встретился с ними сам губернатор Константин Титов. Губернаторы Читинской, Сахалинской областей — татары, в Кемеровской области 93% избирателей голосовали за губернатора Амангельды Тулеева (отец — казах, мать — татарка). В России принято решение, правда, под давлением Совета Европы, об образовании нац. культурных автономий.

В Татарстане в 1997 г. собран фантастический урожай зерновых — 6,4 млн. тонн, по 37 центнеров с гектара — рекорд в Российской Федерации.

В Казахстане (Алма-Ата) в конкурсе на лучшее чтение Корана детьми третье призовое место заняла русская девочка Зинаида Фёдорова. То же самое проходило в Москве, в Соборной мечети, присутствовало 70 детей.

В России вместо "советский человек" применяется термин "россиянин", по этой причине в новом паспорте нет 5-й графы о национальности, против чего и протестуют в нац. республиках РФ. В Казани в татарских школах география, история, математика преподаются на русском языке. Учебники по этим предметам лежат на столе. Ссылаются на отсутствие учителей.

Новость! В 1944 г., в период выселения крымских татар, в ЦК рассматривался вопрос о выселении казанских татар. Невероятно, но факт. Не решились на это по причине, что много татар было на фронте, и самоотверженно они сражались за "Святую Русь". О том, что есть такой документ, сказал Шаймиеву Лукьянов.

Ещё раз спасибо за Ваше намерение помочь сыну, но он в настоящее время дорабатывает, дополняет и расширяет руко-

пись. Как будет готова, я Вам пришлю. Может, по воле Аллаха, разрешится это положительно.

Пару слов о наших делах. Провести что-либо по случаю 600-летия нам не удалось — нет денег. Местные власти отказались нам помочь. Сами мы тоже не очень активны. В начале собирались по пятницам еженедельно, даже когда не было помещения, расквартировывались в отделении Фонда культуры, теперь же, имея помещение, почти не собираемся, кроме праздников Ураза-Байрам и Курбан-Байрам. Обидно, конечно. Уж кому-кому, владеющим татарским языком объясняю, по каким каналам, в какие часы идёт передача татарско-башкирской редакции радио "Свобода", и теперь, с 1.11.1997 г. один час из Казани. Несмотря на это, мало кто слушает эти передачи. Действительно, стали манкуртами.

Готовлю кое-какие материалы для энциклопедии, напечатаю — пришлю. Прошу извинить за почерк и за то, что много написал. Ведь хочется поделиться с кем-либо.

С уважением и приветом,

**Санияф Гарданов.**

***



# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ "БАЙРАМА"

Піша да вас Люба Шпітальная. Выпадак, а можа лёс накіраваў мяне да гэтага прыстанішча. Спачатку напісала я ў маладзёжную газету. Даволі хутка прыйшло адтуль запрашэнне зайсці да іх. Гутарыў са мной вельмі прыемны чалавек, які назваў сябе Мікола. З гэтай размовы я зразумела, што для іх газеты мая тэма не вельмі падыходзіць, бо яна не цікавіць маладых чытачоў, а для газеты чытач — гэта ўсё, гэта пакупнік і падпісчык на іх выданне. Можа быць, каб крыху злагодзіць не вельмі добрае ўражанне, якое на мяне зрабіў яго адказ надрукаваць ліст, ён сказаў мне, што вось зусім нядаўна ён адхіліў матэрыял пра маці-адзіночку, якая пакончыла жыццё і сваё, і свайго дзіцяці, бо не бачыла выйсця з цяжкага становішча. Вядома, у мяне сітуацыя яшчэ не такая складаная, бо ў мяне яшчэ няма дзіцяці.

Мікола параіў мне звярнуцца ў татарскі часопіс “Байрам”, даў адрас і нумар тэлефона знаёмага татарына і сказаў, што ён і сам часам публікуе свае артыкулы ў татарскім выданні. Зусім нядаўна я па радыё пачула, што ў сталіцы адзначалі 600-годдзе пасялення татараў на Беларусі. А раптам да гэтага народа і я маю нейкае дачыненне? Амаль нічога не зменьваючы, я пасылаю вам ліст, з якім звярталася ў маладзёжную газету. Калі я гляджуся ў люстэрка, то ў рысах свайго твару бачу нешта цюркскае. Гэтыя рысы маглі мне па спадчыне перадасца ад бацькі ці маці, ад бабулі ці дзядулі, якіх я не ведаю.

Бацькоў сваіх не ведаю. Вырасла ў доме дзіцяці, у дзіцячым доме, пасля — у інтэрнаце і цяпер жыву ў інтэрнаце, хоць мне ўжо пасля дваццаці. Маці мяне пакінула і, відавочна, выракласся. Мяркуючы па прозвішчы — Шпітальная, яно дасталося мне ад канцылярыстаў, а імя Люба далі мне з добрымі намерамі, каб мяне палюбілі, ну, а імя па бацьку — Іванаўна, дык гэта вельмі папулярнае імя. Нацыянальнасць у пашпарце не напісана, а цяпер у новых пашпартах і не прадугледжана такая графа.

Да восьмага класа вучылася ў школе-інтэрнаце. Зайздросціла тым, у каго знайшліся бацькі. Гэта было яшчэ да першага класа, калі я верыла, што бацькі могуць знайсціся. Пасля зразумела: нікому я не патрэбна. Вучылася старанна, пасля заваршэння восьмага класа — у гарадскім прафесійна-тэхнічным вучылішчы. Атрымала прафесію вязальшчыцы. Вучылася і скончыла вячэрні тэхнікум, стала майстрам. Вельмі хацелася вучыцца далей, быць мадэльерам. Але цяпер, на старэйшым курсе, трэба ўжо працаваць па спецыяльнасці. Ёсць нават месца, куды мяне могуць узяць, і я там закончу сваю адукацыю. Але мяне папросяць пайсці з інтэрната, дзе я маю месца для начлегу. Пры сучасных заробках я ўладкавацца на кут не змагу. Можна жыць так і далей, кінуць вучобу і працаваць на тым жа месцы.

Вядома, няма чаго цешыць сябе, тварык мой сярэднестатыстычны. Мужчыны на мяне не заглядваюцца. Тыя ж дзяўчаты, з кім я жыла ў інтэрнаце, ужо неяк уладкавалі сваё жыццё, вызначыліся: у адной ужо двое дзетак, у другой гадавалы хлапчук, але бацька гэтага хлопчыка трапіў у турму, а мая сяброўка з сынком жывуць у свякроўкі, і не вельмі ім утульна.

Вядома, прырода бярэ сваё. Мне сніцца часта сон, што я вяду за ручкі хлопчыка і дзяўчынку, а як прачнуся, то аказваецца, што я, як і раней, у інтэрнаце, і адна суседка храпе, а другая яшчэ не вярнулася з гульбішча. Як падумаю, што ўсё жыццё давядзецца жыць у калектыве... Можна і завесці такое пажаданае дзіця, але ці не паўтару я лёс сваёй маці? Кінуць дзіця, а потым, упэўнена, што гэта будзе потым, мучыцца вечна самой і ведаць, што яно пакутуе.

Не думаю, што шчаслівы і той, хто павінен быў быць маім бацькам. Можа і яму няма шчасця ў гэтым жыцці? Хто мне адкажа на гэтае пытанне? Хто мне параіць, як мне жыць?

**Люба Шпітальная.**

*(Адрас Л. Шпітальнай вядомы рэдакцыі "Байрама". Можна напісаць адказ, каб яго надрукавалі ў часопісе, а можна і асабіста для Любы праз рэдакцыю.)*

***

# Главам государств стран СНГ и дальнего зарубежья

# Президентам республик и губернаторам Российской Федерации

# Представителям средств массовой информации

# Учёным, писателям и всей демократической интеллигенции

На пороге третьего тысячелетия все народы, населяющие земной шар, подводят итоги пройденному, анализируют сегодняшнюю действительность и задумываются о своём будущем. К сожалению, анализ прожитого и сегодняшняя действительность со всей очевидностью показывают, что происходящие демографические процессы угрожают будущему многих народов, грозя исчезновением их как этносов с лица земли, делая мир гораздо беднее, менее разнообразнее, лишая будущее поколение человечества счастья общения с носителями уникальной, только каждому народу присущей культуры, обычаев, быта и языка. С другой стороны, природа так сбалансирована, что потеря или исчезновение какой-либо её части может в дальнейшем повлечь за собою цепь таких катаклизмов, о которых мы сегодня предположить не можем. Не говоря уже о высшей силе, под которой мы все ходим. Для нас это Аллах, для других — Бог, Будда или Яхве.

Национальная политика руководителей Советского Союза, нацеленная на ликвидацию наций, создавая единую общность — советский народ, добилась большого успеха, а инерция этой политики до сих пор ощущается в повседневной практике в отношении культуры, образования, языка, веры и обычаев коренных и титульных народов не русской национальности в масштабе всей России. Нет федеральных законов и программ по сохранению коренных, титульных и малых народов. Государственные органы, средства массовой информации федерального значения, телевидение, радио, печать, информатика, коммуникации, другие органы и социальные институты, формирующие мировоззрение современного человека, игнорируют сотни народностей и наций, проживающих в Российской Федерации, пропагандируется культура, вера и обычаи только одного — русского народа.

На "ОРТ" имеется студия "Мир", предоставляющая эфирное время республикам СНГ. Для своих же республик, автономий и краёв с коренными и титульными народами ни на "ОРТ", ни на "РТР", ни в программе "Культура" места нет. Давайте обратимся к главному закону Российской Федерации — Конституции.

**Глава 2, статья 19.**

2. Государство гарантирует равенство прав и свобод человека и гражданина независимо от пола, расы, национальности, языка, происхождения… (и т.д. по тексту).

**Статья 26.**

2. Каждый имеет право на пользование родным языком, на свободный выбор языка общения, воспитания, обучения и творчества.

**Глава 3, статья 68.**

3. Российская Федерация гарантирует всем её народам право на сохранение родного языка, создание условий для его изучения и развития.

**Статья 69.**

Российская Федерация гарантирует права малочисленных народов в соответствии с общепризнанными принципами и нормами международного права и международными договорами Российской Федерации.

Но ни один пункт, ни одна статья Конституции РФ, к сожалению, не исполняются должным образом, поскольку нигде, ни в одной области, республике, крае в бюджете не заложена статья финансирования развития культуры, языка, веры, обычаев, быта и сохранения самих наций, проживающих на территории данной федерации.

На прошедшей 25 июля 1998 г. конференции, посвящённой будущему татарского народа, в которой принимали участие учёные, историки, филологи, философы, языковеды, видные религиозные деятели, политики, прозвучали неутешительные демографические прогнозы. Для татарского народа, в частности, были названы страшные цифры, доказывающие его исчезновение в местах исторического расселения.

— Из более чем миллиона Касимовских татар осталось около ста семей, считающих себя татарами. Из памяти вытесняется всё напоминающее о принадлежности к татарскому народу. Та-

тарские географические названия мест и рек, гор, деревень заменяются на русские.

— Астраханские, Волгоградские, Саратовские и Самарские татары через одно поколение забудут татарский язык, через другое — исчезнут, как и Касимовские.

— У Сибирских татар, рассеянных по всей территории своей огромной родины, сузился до крохотных размеров ареал проживания, что гроит полным исчезновением. Городское население уже сегодня почти полностью разговаривает на русском языке.

Если не принять срочных мер по сохранению татарской нации, её языка, быта, обычаев при обязательном воспитании молодёжи по канонам исламской веры, такая же перспектива ожидает и татарское население Пермской, Свердловской и Оренбургской областей. А также весь многомиллионный татарский народ. Прогноз для других народов более мрачен.

Теперь уже ясно, что в сохранении этноса Поволжья и Урала решающую роль сыграла их тесная братская дружба и исторически сложившаяся взаимосвязь. Эта дружба и взаимосвязь на этническо-подсознательном, генетическом уровне каждому поколению подсказывала о его принадлежности к Башкирскому, Марийскому, Удмуртскому, Чувашскому или Татарскому народу, не позволяя забыть свои корни, опираясь на их родную землю, им принадлежащую.

Учитывая всё это, мы призываем всех и в дальнейшем укреплять дружбу между народами, создавать условия для развития культуры, языка и быта татарского народа в странах и регионах на основе договора между Республикой Татарстан и регионами, где проживают татары, с тем, чтобы дети могли воспитываться, развивать язык, культуру, изучать и перенимать быт и обычаи своего народа, расти в уважении и гордости к своему народу. Выпускать газеты, журналы, предоставлять эфирное время на радио и телевидении для всех народов, проживающих в нашей республике.

А татарский общественный центр и татарский народ сделают всё, чтобы это было на пользу всем народам.

Председатель Наб.-Челнинского
отделения ТОЦ
**Кашапов Р.Р.**

***

# У МЯЧЭЦЬ ЗАПРОСЯЦЬ УСІХ

**У Мінску зарэгістраваная і дзейнічае адзіная рэлигийная абшчына мусульманаў-шыітаў. Яны сабраліся будаваць уласную мячэць.**

Старэйшына Міралі Міраліеў паведаміў, што ў кіраўніцтва абшчыны ўваходзяць члены яго сям'і, родныя і сябры. Па словах М. Міраліева, абшчына не плануе займацца палітычнай або прадпрымальніцкай дзейнасцю: "Галоўнае для нас — пабудаваць у Мінску мячэць, у якой вернікі маглі б выконваць свае рэлігійныя абрады". Калі яе пабудуюць, мячэць будзе адкрытая і ўдзень, і ўначы, каб "пакутнікі любой нацыянальнасці і веры маглі знайсці падтрымку і атрымаць дах над галавой".

Натуральна, будаўніцтва каштуе шмат грошай, і мінскія шыіты спадзяюцца на фінансавую дапамогу мусульман Германіі, Ірана, Расіі, ЗША і Турцыі. "Сабраўшы неабходную суму, мы плануем выкупіць які-небудзь стары будынак на гарадскім аўкцыёне нерухомасці і на яго месцы пабудаваць прыгожую мячэць", — патлумачыў М. Міраліеў. Па ягоных словах, сёння ў Мінску пражывае прыкладна 12 тысяч мусульман-шыітаў — у асноўным выхадцаў з Азербайджана, а таксама з Афганістана і Турцыі.

**Даведка.** Шыізм — адна з найбольш значных плыняў мусульманства, якая ўзнікла ў VII стагоддзі. Адметнай рысай шыізму з'яўляецца вера ў тое, што законнымі пераемнікамі прарока Мухаммеда — імамамі — могуць быць толькі ягоныя родзічы-нашчадкі, а халіфы, абраныя абшчынай, — незаконныя. У сувязі з гэтым шыіты не прымаюць суну — зборнік свяшчэнных паданняў аб жыцці, цудах і павучаннях Мухаммеда, складзеную пры першых халіфах у IX стагоддзі.

(З газеты "Навіны", № 81, 7 жніўня 1998 г.)

***

# ЗМЕСТ

# Байрам

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

**КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ"**

№ 2, 1998 г.

Камп'ютарны набор: Дз. Чымбаевіч
Літаратурны рэдактар,
камп'ютарная вёрстка: Н. Крыцкая
Камп'ютарны дызайн ілюстрацый: Н. Кірыенка

Падпісана ў друк 7.11.1998 г. Фармат 84x108 1/32.
Папера для ксераксаў. Гарнітура "Таймс".
Ум.друк.арк. 5,9. Ул.выд.арк. 6. Тыраж 300. Зак. 32.

Аддрукавана ў ВКП "АРТЫ-ФЭКС",
ліцэнзія ЛП № 180 ад 5.01.98.

ПКП "АРТЫ-ФЭКС". Ліцэнзія ЛВ № 199 ад 27.02.98.
220072, г.Мінск, вул.Акадэмічная, 1-130.